*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 24 чэрвеня 1988 г. № 26 (3436) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



# ШАНУЕ БАЦЬКАЎШЧЫНА СЫНА...

## «СКАРЫНІНСКАЕ СВЯТА КНІГІ» Ў ВІЦЕБСКУ




Выступае Рыгор БАРАДУЛІН.

*На радзіме выдатнага* беларускага асветніка - гуманіста прайшло «Скарынінскае свята кнігі», першае свята ў рамках акцыі, абвешчанай ЮНЕСКА. Яно было арганізавана выдавецтвам «Мастацкая літаратура», Віцебскім гарвыканкомам і аблкнігагандлем, Саюзам пісьменнікаў БССР.

Уступным словам свята адкрыў першы сакратар Віцебскага гаркома Кампартыі Беларусі А. І. Образаў, які горача вітаў прысутных на плошчы Свабоды, расказаў аб тым, як жывуць і захоўваюцца лепшыя традыцыі літаратурнай мінуўшчыны ў адным са старажытнейшых гарадоў рэспублікі, дзе шчыра ўшаноўваюць памяць славутага земляка.

Традыцыйныя хлеб-соль прымаюць лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Рыгор Барадулін і Вольга Іпатава. Свае вершы, прысвечаныя Францыску Скарыне, роднаму краю, чытаюць Сяргей Законнікаў, Сяргей Панізнік, Леанід Дайнека, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Папковіч, Давід Сімановіч.

Скарына жыў і працаваў у эпоху, якая мела вялікую патрэбу ў тытанах па сіле думкі, страсці і характару, па шматбаковасці і вучонасці, сказаў дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. Грышановіч. Айчынная літаратура, якая заўжды выказвала актыўнае сумленне, высокую свядомасць народа, сёння самім часам заклікана да нястомнага змагання за ачышчэнне і адраджэнне нашых велічных ідэалаў, за развіццё патрыятычнай свядомасці, за доўгае жыццё роднага друкаванага слова. Менавіта жывое слова Скарыны дало магутны імпульс для развіцця роднай культуры і літаратуры, якія побач з рускай і украінскай маюць тысячагадовую гісторыю.

Найбольш бліскучай старонкай сярод вялікіх адкрыццяў эпохі Адраджэння назваў Энгельс наша кнігадрукаванне, з'яўленне друкаванай літаратуры на роднай мове, над якой лунаў і лунае скарынінскі герб, што сімвалізуе перамогу святла над цемрай. З мацярынскага ўлоння старажытнай беларускай пісьменнасці пачыналася сусветная слава нашай літаратуры.

Захоўваць вернасць Айчыне, гістарычнай памяці, культуры, роднаму слову — такі запавет пакінулі нам творцы беларускага нацыянальнага Адраджэння. У гэтай сувязі прынята рашэнне аб выданні серый «Літаратурныя помнікі Беларусі», «Спадчына», «Бібліятэка беларускай гістарычнай прозы». Пачынаем выданне стотомніка «Скарбаў сусветнай літаратуры» пад скарынінскім гербам.

Сцэну займаюць самадзейныя артысты. Яны выконваюць беларускія песні і танцы. А ля кніжных кіёскаў тоўпяцца пакупнікі. У руках многіх з іх — кніжкі, выпушчаныя выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Гэта творы класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Максіма Гарэцкага; пісьменнікаў, чые імёны сталі гонарам сучаснай беларускай літаратуры,—Максіма Танка, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Пімена Панчанкі, Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна.

У апошні час літаратурную спадчыну папоўнілі кніжкі «Матчын дар» Алеся Гаруна— факсімільнае выданне да 100-годдзя з дня нараджэння паэта, «Крывёю сэрца» Алеся

(Заканчэнне на стар. 2).

адбілася на лёсе беларусаў і ўкраінцаў, якія блізкія па мове рускаму народу. У выніку беларуская мова перастала быць рабочай і паступова стала губляць свае законныя функцыі. На партканферэнцыі з ўсёй адказнасцю павінна быць пастаўлена пытанне аб аднаўленні законных правоў рэспублік, якімі яны карысталіся пры Леніне.

**В. ГІГЕВІЧ:**

— Каб не было месца экалагічным злачынствам, трэба, каб прамысловыя аб'екты ўзводзіліся не па прыхамаці ведамстваў, а са згоды ўсяго народа, для чаго ўсе праекты шырока абмяркоўваць.

Усё, пра што мы тут сёння гаворым, трэба давесці да ведама сакратарыята канферэнцыі, даручыўшы гэта нашаму дэлегату партканферэнцыі Максіму Танку.

**Н. ГІЛЕВІЧ:**

— Мой наказ беларускім дэлегатам XIX партканферэнцыі: няхай рашуча заявяць аб неабходнасці вырашыць з ленінскіх пазіцый нацыянальнае пытанне ў краіне. Трэба, каб народ у рэспубліцы чуўся поўным гаспадаром і сам распараджаўся сваім лёсам. Як ён дасягне ва ўсіх сферах жыцця ладу, калі нібыта выбраны ім Вярхоўны Савет не можа праявіць самастойнасці, не можа ад імя народа нечаму запярэчыць, з нечым не пагадзіцца? Хіба гэта нармальна, што чыноўнік саюзнага міністэрства выбірае на карце краіны пункт, тыкае, груба кажучы, пальцам — і вось у Драгічыне, у нерушна-чыстым кутку Палесся, пачынаюць будаваць біяхімічны завод. Насельніцтва абурана, пратэстуе — а завод будуецца. Або: колькі разоў на камісіі Вярхоўнага Савета БССР я падымаў пытанне аб беларускіх школах у рэспубліцы, а мне ў адказ адно і тое ж: ёсць усесаюзны закон аб народнай асвеце, які мае сілу і для нас. Але чаму сам беларускі народ не вырашае, на якой мове вучыць яму сваіх дзяцей, якою мовай у сябе дома карыстацца ў справаводстве? На ўвесь свет заяўляем: БССР — суверэнная дзяржава, а гэта дзяржава не можа нават забяспечыць народу права на сваю мову. Пара, нарэшце, разабрацца ў гэтым разумна, па-чалавечы.


Па дарозе на Курапаты...

**ходнасці ўключыць у яе аўтараў артыкула «Курапаты — дарога смерці» і асоб, якія пацярпелі ў гады культу Сталіна; аб тым, каб камісія звярнулася праз сродкі масавай інфармацыі да ўсіх, каму вядомы факты рэпрэсій. Мітынг выказаўся і за стварэнне адпаведнай грамадскай камісіі на чале з народным пісьменнікам БССР В. Быкавым, якая б, са свайго боку, спрыяла б больш шырокаму выяўленню фактаў сталінскіх злачынстваў.**

**На мітынгу, які доўжыўся амаль чатыры гадзіны, выступіла больш за трыццаць чалавек, сярод якіх сакратар Мінскага ГК КПБ П. Краўчанка, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, навукоўцы З. Пазняк, А. Ліцвін, А. Майсеня, Д. Мацяс, дачка рэпрэсіраванага беларускага паэта Т. Кляшторнага Т. Кляшторная, літаратары П. Прудпікаў, В. Жуковіч, К. Тарасаў, А. Емяльянаў, член суполкі «Талака» В. Івашкевіч, прадстаўнікі іншых маладзёжных аб'яднанняў, рабочыя і служачыя прадпрыемстваў і ўстаноў Мінска. З імправізаванай трыбуны ўдзельнікі мітынгу гаварылі пра трагічны лёс сваіх родных і блізкіх, дзяліліся перажытым. Гучала думка аб тым, што перабудова вымагае духоўнага абнаўлення нашага жыцця, актыўных грамадскіх дзеянняў, акрэсленасці пазіцыі кожнага.**

**Мітынгі памяці ахвяр масавых рэпрэсій 30—50-х гг. засведчылі высокі ўзровень грамадзянскай свядомасці і палітычнай культуры жыхароў беларускай сталіцы, сталі відавочнай праявай рэальнай дэмакратызацыі нашага жыцця. І таму нельга не сказаць пра асвятленне гэтай важнай падзеі ў «Вячэрнім Мінску» (20 чэрвеня г. г.) — маем на ўвазе тую частку справаздачы, якая датычыць мітынгу ў Курапатах. Беспадстаўнае абвінавачванне ў «асабістых амбіцыях», абраны карэспандэнтамі прадузяты, у нейкіх момантах дэмагагічны тон проста недарэчныя ў дачыненні да святой справы, да волевыяўлення тысяч мінчан, якія па закліку сэрца і сумлення сабраліся аддаць даніну памяці бязвінна пакараных.**

**НАШ КАР.**

# АГУЛЬНАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ

**На чарговым пасяджэнні Клуба творчай інтэлігенцыі г. Магілёва з паведамленнем «Учора, сёння і заўтра» аб рабоце абласной газеты «Магілёўская праўда» расказаў яе рэдактар Я. Крыскавец, а сакратар абласнога аддзялення СП БССР І. Аношкін — аб справах мясцовых літаратараў.**

**На пасяджэнні выступілі таксама В. Хаўратовіч, А. Кандрусевіч, члены літаб'яднання «Прыдняпроўе» І. Пехцераў, М. Папкоўскі, В. Габрусёва, М. Емяльянаў, кіраўнік літаб'яднання пры шматтыражцы «Трудовая смена» вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» В. Вераб'ёва, рэжысёр Краснапольскага народнага тэатра В. Ермаловіч, кіраўнік мясцовага клуба самадзейнай песні М. Гарэлы.**

**Закраналіся розныя пытанні творчага жыцця, гаварылася аб неабходнасці пастаянных кантактаў прадстаўнікоў муз.**

**А. НОВІК.**

# КАЛІ ПЯЮЦЬ САЛДАТЫ...

**Герой Савецкага Саюза Мікалай Чэпік... Гэта імя добра вядома ва ўсім Савецкім Саюзе. Наш зямляк быў адным з першых, хто за свой подзвіг пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку ў Афганістане быў удастоены пасмяротна такога высокага звання. Сёння М. Чэпіку прысвечаны літаратурныя творы, мастацкія палотны. «Ён сяброў засланіў сабою» — так называецца песня І. Лучанка, у якой паўстае гераічны воблік мужнага беларускага юнака.**

**З гэтым творам вядомага кампазітара многія могуць пазнаёміцца на канцэртах двойчы Чырванасцяжнага акадэмічнага ансамбля песні і танца Савецкай Арміі імя А. В. Аляксандрава, які гастралюе ў рэспубліцы. У праслаўленага калектыву даўняя дружба з І. Лучанком. У розны час у рэпертуар ансамбля былі ўключаны песні «Памяць сэрца», «Пераможцы», «Ліст з сорак пятага», «Майскі вальс» і іншыя. Цяпер жа, акрамя «Ён сяброў засланіў сабою», гучаць у канцэртах «Зязюля» і «Ты такая адна, Зямля».**

**Праграма гастроляў багатая. Акрамя твораў савецкіх кампазітараў, у яе ўвайшлі народныя песні, урыўкі з класічных твораў і, вядома ж, танцавальныя нумары.**

**Г. СЕКУШЭНКА.**

# НА ФІНСКАЙ МОВЕ

**У трэцім і чацвёртым нумарах часопіса «Мааілма я мэ» («Свет і мы»), які выдаецца ў Хельсінкі Таварыствам фінска-савецкай дружбы, змешчана аповесць «Апошняя пастараль» Алеся Адамовіча. Пададзены таксама партрэт і кароткі нарыс творчасці пісьменніка. Яго прадстаўляе фінскаму чытачу перакладчыца Улла-Лііса Хейна. Ілюстрацыі мастакоў Наталлі і Андрэя Грыгор'евых.**

**Я. ЛАПАТКА.**

# Як жыць, Сямён Уладзіміравіч?

## ЗАМЕСТ РЭПЛІКІ

Літаратар Сямён Букчын выступіў у друку з траскучым і напышлівым артыкулам «Перабудова—наш лёс» («Советская Белоруссия», 7 чэрвеня г. г.). Аўтар нібыта заклапочаны лёсам сацыяльна-эканамічнай і духоўнай рэфомы нашага грамадства; выкрывае Ніну Андрэеву — які смелы, хоць праз два месяцы пасля рэдакцыйнага артыкула «Правды», але наважыўся. «Велика, неизмеримо велика цена нашей перестройки, — дэкламуе С. Букчын. — Так неужели снова отдадим, снова отступим?» У экзальтаванасці Сямён Уладзіміравіч увогуле мог бы спаборнічаць з колішнімі правінцыяльнымі трагікамі. Напрыклад, саюзны друк ён не проста чытае — знаходзіць там «повод для высокого гражданского волнения, для глубоких раздумий». Альбо: «Раненой птицей она (дэмакратычная традыцыя. — **А. Г.**) уже лежала на земле и казалась поверженной навсегда...» Памры, няшчасная!!!

Што ж, бывае... Прэтэнцыёзнае словапляценне яшчэ не рэдкасць, у тым ліку і з нагоды перабудовы. Спрачацца з падобнай «публіцыстыкай» не выпадае — няёмка. Тут жа ўсё слушна! Дакладнасці С. Букчына пазайздросціў бы і сапсаваны гадзіннік, які, як вядома, двойчы ў суткі з'яўляецца эталонам часу.

Запрасіўшы чытачоў «Советской Белоруссии» «внимательнее вглядеться в облик противников перестройки», С. Букчын шчодра надзяліў увагай і «ЛіМ». «Я часто думаю о том, как много могла бы сделать наша писательская газета сегодня», — гаворыць ён, і гэта таксама чыстая праўда. І часта, і шмат, і не толькі думае. Свае візіты ў рэдакцыю ён заканчвае заявай: «Я пакідаю за сабой права вучыць «ЛіМ»!». Так мы займелі настаўніка (у дадатак да шматлікіх «куратараў» — яшчэ аднаго, на грамадскіх пачатках). Са старонак «Крыніцы» ён вучыць нас эстэтыцы, у «Чырвонай змене» — эстэтыцы і этыцы разам, і вось цяпер — перабудове.

«Курс лекцый» Букчына засвоіць не цяжка. Газета кепская, абураецца ён, «никого не спасла, ни за кого серьезно не вступилась», усё міма ды міма... Што маецца на ўвазе — публіцыстыка і проза В. Быкава, Я. Брыля, І. Пташнікава, А. Мальдзіса, С. Алексіевіч, У. Конана, В. Тараса, В. Грыцкевіча, Б. Сачанкі, К. Тарасава, Э. Ялугіна, З. Пазняка, вершы П. Панчанкі, С. Грахоўскага, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, Я. Янішчыц, А. Грачанікава, Н. Мацяш, Л. Галубовіча ці якія іншыя матэрыялы — наш «сэнсэй» і «гуру» ўдакладніць не лічыць патрэбным. Ды і навошта? Можа не вытрымаць тэзіс пра «нізкі ўзровень», інтэлектуальны вакуум, які быццам бы ўтварыўся на лімаўскіх старонках... без артыкулаў самога настаўніка.

Некалькі слоў пра «собственный пример», на які спасылаецца (у каторы раз!) С. Букчын. Сапраўды, летась ён прапанаваў рэдакцыі свае «палемічныя нататкі». Напісаныя менавіта ў стылі «не замай нашых» (якім так горача абураецца аўтар), зместам сваім калялітаратурныя, свету яны не пабачылі. Намякаючы на тое, што за іх аберуч ухапілася «Литгазета», Букчын сам сябе падлашчвае. Для «ЛГ» ён напісаў іншы артыкул, «Причуды местных амбиций»,—пра тое, як гібее высокі розум ва ўмовах правінцыяльнай і нацыянальнай абмежаванасці. Тая публікацыя істотна павялічыла лімаўскую пошту, прычым адгукнуліся на яе не толькі жыхары Беларусі. Абвінавачанне ў нібыта нячыстай гульні — «арганізацыі» водгукаў — няхай застанецца на сумленні Букчына (калі яго ныя ўяўленні пра сумленнасць усё ж не безразмерныя). Заўважым толькі, што ў аглядзе «Бялінскі тут ні пры чым» мы не скарысталі ўсіх лістоў, якія захоўваюцца ў рэдакцыйным архіве. Вось адзін з іх, узяты наўгад: «Не бачыць жахлівага становішча ў Беларусі з роднай мовай — значыць, быць сляпым, а тым больш гэта недаравальна для працаўніка культуры, — пісаў тады А. В. Якаўлеў з Северадзвінска. — Цяпер я ўпэўнены, што дзякуючы менавіта такім «дзеячам», як Букчын, беларуская мова і культура панеслі балючыя страты, загаіць якія вельмі цяжка. Спатрэбіцца значны высілак і час — пры ўмове сталай увагі да гэтай справы».

А вось ліст з апошняй пошты, адзін з тых, якія вяртаюць нас да публікацыі ў «Советской Белоруссии». Яго мы хутчэй за ўсё прынялі б «да ведама», падзякаваўшы аўтару за падтрымку лініі нашай газеты, але —працытуем. «Зусім недарэчна выглядае папрок С. Букчына, *што старонкі «ЛіМа»* запаўняюцца «водянистыми рассказами, пышными стихотворными подборками, бесцветно-осторожными обзорами», што газета баіцца «ссориться с местным начальством», — піша сярод іншага супрацоўнік ІМЭФ АН БССР А. Лозка. — Нават без заступніцтва (у тым ліку і без майго) разбураюць прэтэнзіі Букчына лімаўскія нумары, у прыватнасці, матэрыял З. Пазняка і Я. Шмыгалёва, які змешчаны за чатыры дні да публікацыі «пакрыўджанага» аўтара».

«Перестройка должна назначить цену каждому»,—галасна зазначае С. Букчын. І, мабыць, глыбока пераканапы—каму-каму, а яму дастанецца цана самая высокая. Нават ужо дасталася. А таму — яшчэ больш пільна ўзіраецца ў «абліччы праціўнікаў». Хто наступны? Ніл Гілевіч — як пасмеў абразіць чытача?! «Вспомним пушкинское: «Мой читатель! Друг-читатель!» Чаму ж не ўспомніць: «Поэт! не дорожи любовию народной. Восторженных похвал пройдет минутный шум: Услышишь суд глупца и смех толпы холодной, Но ты останься тверд, спокоен и угрюм».

Наўрад ці кандыдат філалагічных навук не ведае гэтых хрэстаматыйных радкоў. Зрэшты, няма падстаў усчынаць гісторыка-літаратурны дыспут. Але на вышыні «гражданского волнения» і на глыбіні «раздумий о процессах», у гордай паставе вартаўніка чысціні «демократических традиций» С. Букчын трошкі губляе адчуванне рэальнасці. Што ўжо казаць пра чуйнасць да звычайнага слова! Хто б мог падумаць, што Букчын пакрыўдзіцца... за Бермана. Як, маўляў, можна пісаць: «У той час у рэспубліцы **арудаваў** Берман»? А як трэба, Сямён Уладзіміравіч, — пра Берыю, Цанаву, Бермана, Бэндэ? «Жылі-былі», «тварылі», «будавалі сацыялізм», «дбалі пра народнае шчасце»? Майце ласку, навучыце!

І апошняе. Галоўны клопат С. Букчына — духоўныя і этычныя крытэрыі перабудовы. Так, ва ўсялякім разе, вынікае з ягонай публіцыстычнай дзейнасці, апошнім часам надзіва бурнай. Вядома, спакуслівa абвясціць сябе адным з падзвіжнікаў перабудовы і адначасова прымераць ролю спадкаемцы маральных пошукаў Дастаеўскага, Талстога, Чэхава. Яшчэ больш лёгка зрабіць з тых высокіх прынцыпаў... звычайную дубіну і аходжваць ёю недасканалых сучаснікаў. Але, па-простаму кажучы, у кожнай дубіны... Успомнілі?

Падумайце пра гэта, Сямён Уладзіміравіч. Скарыстайце таксама вашу схільнасць да «глубоких раздумий», каб паразважыць і над тым, што крайнасці зближаюцца, што «квасны патрыятызм» і «тутэйшы» снабізм усё-такі маюць агульны корань. Тую самую правінцыяльную, абывацельскую абмежаванасць, якую вы так пафасна, крыкліва «выкрываеце».

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

**P. S. У артыкуле С. Букчына, што называецца, «усяго многа», у тым ліку і такіх закідаў і прыдзірак, аспрэчваць якія — занятак больш чым марны. Але яшчэ два ўдакладненні, мусіць, зрабіць трэба.**

**Паколькі настаўніку нашаму ўсё ў «ЛіМе» не даспадобы, то, натуральна, не ўпадабаў ён і некаторыя «неуклюже детские клишированные ответы», накшталт «Божанька тут ні пры чым». Што ж, гэта справа густу. Сцвярджаючы, аднак, што наша газета ў дадзеным выпадку «попала в неловкое положение», С. Букчын зноў хлусіць, пераскручвае факты. Наадварот, «ЛіМ» (дарэчы, таксама не без падтрымкі нашых чытачоў) першы ў краіне выступіў супраць адыёзнага артыкула І. Крывялёва «Кокетничая с боженькой» і, як паказала далейшае развіццё падзей, меў рацыю.**

**І наступная заўвага — у адказ на ваш, Сямён Уладзіміравіч, настойлівы клопат аб тым, «кто же следующий будет «ни при чём»?» На гэты раз — Горкі. Неяк вельмі ўжо бесцырымонна — зноў-такі, відаць, з разлікам на чыюсьці недасведчанасць — абышліся вы з ягоным шырока вядомым выказваннем на Першым з'ездзе савецкіх пісьменнікаў, «схаваўшы» заключную частку горкаўскай фразы. Вось гэтыя, праігнараваныя вамі, словы: «Вучыць — значыць узаемна дзяліцца вопытам. Толькі гэта. Толькі гэта, і не больш за гэта». Так што, Сямён Уладзіміравіч, і Горкі тут ні пры чым...**

**А. Г.**

# ДАБРАЧЫННЫ СПЕКТАКЛЬ

**Як паведамлялася, у сталіцы адбываюцца гастролі Львоўскага акадэмічнага ўкраінскага драматычнага тэатра імя М. Занькавецкай. Мінчане паглядзелі ўжо шмат цікавых спектакляў, ацанілі майстэрства акцёраў. Украінскія артысты сустракаліся з працоўнымі Мінска, з беларускімі пісьменнікамі.**

**Адзін са спектакляў — «Дзеці Арбата» — будзе дабрачынным. Ён адбудзецца ў суботу, 25 чэрвеня, у 12 гадзін дня ў памяшканні Тэатра музычнай камедыі. Сродкі ад яго пойдуць у Беларускі фонд культуры на будаўніцтва дома-музея В. Дуніна-Марцінкевіча ў Люцынцы.**

**Г. ЗІНКЕВІЧ.**

**ПЕРАБУДОВЕ — ІДЭІ АБНАЎЛЕННЯ**

Анатолій СТРЭЛЯНЫ

# СТРАЛЬБА НАЎСКІД

**Вясною ў Доме творчасці «Іслач» праходзіў Усесаюзны семінар маладых публіцыстаў. Адным з *кіраўнікоў семінара быў вядомы* рускі публіцыст Анатолій Стрэляны. Тут, у нашай «Іслачы», пісьменнік выкройваў час і на тое, каб працаваць над нарысам «Стральба наўскід».**

**Тады ж, у час сустрэчы ў Доме літаратара з беларускімі калегамі, А. Стрэляны паабяцаў — у адказ на просьбу рэдакцыі штотыднёвіка — пазнаёміць і нашага чытача са сваім новым творам. Днямі пісьменнік спраўдзіў абяцанне — даслаў нам карэктуру нарыса, які неўзабаве з'явіцца ў часопісе «Дружба народов». Рэдакцыя «ЛіМа» выбрала з твора некалькі старонак. Аднак і яны дадуць чытачу ўяўленне пра яго змест і праблематыку, а таксама пра яго героя, першага *сакратара райкома партыі аднаго з раёнаў Расійскага Нечарназем'я Грабеннікава, які церпіць жор*сткае і бязлітаснае паражэнне ў сваіх шчырых намерах і самаадданых намаганнях навесці парадак у раёне, так і не адолеўшы зацятага супраціўлення абласной і раённай апаратна-бюракратычнай мафіі.**

— БУДЗЕМ рэкамендаваць вас начальнікам абласнога ўпраўлення харчовай прамысловасці, — ледзь не ўрачыста сустрэў яго Круглікаў.

— Ведаю, але не выйдзе, — адказаў Грабеннікаў. — Ад пераводу ў вобласць я ўжо адмовіўся, пайду ў саўгас.

— Вам трэба згаджацца — Васілій Іванавіч настойвае.

— Я быў дырэктарам саўгаса, — сказаў Грабеннікаў. — Раз лічыцца, што не саўладаў з раёнам, чаму я не магу вярнуцца ў саўгас?

— Вам прапануюць большую работу. Фактычна, з прэміямі, удвая больш атрымліваць будзеце. Шостак вас паважае, гэта яго асабістая прапанова.

— Калі паважаюць, такіх прапаноў не робяць!

— Ну, тады вам давядзецца напісаць заяву па ўласным жаданні.

Грабеннікаў зразумеў, што сваёй пазіцыі ў Круглікава няма, проста яму даручана яго ўламаць.

— Чаму я павінен пісаць заяву? За што канкрэтна мяне здымаюць, мне можна ведаць?

— Ідуць на цябе ананімкі,— уздыхнуў Круглікаў. — Неўзабаве будзе справаздачна-выбарчая канферэнцыя, а выходзіць з табой на выбары ў Іжы нельга — там цябе забалатуюць. Мы вас ратуем, зразумейце ж вы!

— Раз такое меркаванне, што мяне трэба ратаваць ад камуністаў, якія мяне ведаюць, я тым больш нікуды не пайду. Пакіньце мяне ў раёне, беспрацоўным не буду.

Так спрачаліся да абеду і ўвесь абедзенны перапынак, пасля парашылі пашкадаваць адзін аднаго і разысціся, пакуль вернецца Шостак.

Шостак вярнуўся а пачатку сёмай. За гадзіну перад тым па тэлефоне (Грабеннікаў усё сядзеў у аргаддзеле) прыйшло пацвярджэнне таго, што чакалася з учарашняга дня: новым Генеральным сакратаром выбраны Гарбачоў. У прыёмнай Шостака, куды Грабеннікаў увайшоў у суправаджэнні Круглікава, нікога не было — апусцелая, яна выглядала асабліва прасторнай, у ёй адчуваўся лішак моцнага святла. У кабінеце першага было цёмна— менавіта так пасля святочнай прыёмнай успрымаўся тут прыцемак ужо адыходзячага гістарычнага дня. У гэтым прыцемку Грабеннікаў не адразу пазнаў Шостака, які сядзеў насупраць, і, не зірнуўшага на зайшоўшых, Выскрэбенцава, другога сакратара абкома. Твар Васілія Іванавіча выдаваў такім журботным і стомленым, што Грабеннікаў замёр ля парога. Стаў зразумелы прыцемак у кабінеце. У гаспадара, напэўна, проста не было сілы дацягнуцца хоць бы да настольнай лямпы ці папрасіць, каб гэта зрабілі за яго.

— Ну, што? — ціха спытаў Шостак.

— Адмаўляецца, — гэтак жа ціха паведаміў Круглікаў.—Не згадзіўся.

— Хай тады ідзе,—парашыў Шостак, зніжаючы голас амаль да шэпту.

Круглікаў адразу павярнуўся да дзвярэй, а Грабеннікаў прынцыпова працягваў стаяць.

— Ідзі-ідзі, — сказаў яму Шостак. — Будзь здароў.

Круглікаў, не азіраючыся, крануў Грабеннікава за рукаво, і той пайшоў за ім з цёмнага кабінета ў асляпляльную прыёмную, здзіўлены не так апошнімі словамі Васілія Іванавіча, колькі яго хваравітым выглядам.

З нейкага часу Грабеннікаў пачаў задумвацца над вострымі, нават апалітычнымі пытаннямі: чаму не ўсё добра ў партыі, не ўсё добра ў краіне, многае не выконваецца, паўсюль і ўсюды не хапае сумленнасці? Ён бачыў перад сабой доўгі шэраг людзей, якіх сустракаў на розных пасадах на працягу жыцця, і вымушаны быў шчыра прызнавацца, што, за рэдкімі выключэннямі, гэта былі ўсё ж не тыя людзі—такіх, як Маслакоў ці Сёмушкін, сярод іх было працэнтаў пяць. А вось працэнт харошых людзей сярод рабочых заўсёды быў большы. Значыць, камсастаў кепска падбіралі, значыць, падбор кадраў — самае слабое звяно. Калі б падбіралі добра, не было б такіх праблем і пакут, якія зведвае хоць бы і ён. З Маслаковым жа ў яго няма аніякіх трэнняў — вось і прыклад, вось і доказ, што калі б усе былі такія...

— Я зразумеў, што да чаго, — сказаў ён Круглікаву. — Вельмі кепска ў нас падбіраюць кадры. На ўсіх узроўнях!

Сам дайшоўшы да гэтай думкі, ён надаваў ёй значэнне адкрыцця—адкрыцця амаль крамольнага, адчуваў сябе чалавекам, які замахнуўся на аснову асноў. Гэтае адчуванне надало яго словам сілу горкай задушэўнасці, тым больш нечаканай для яго самога, што звернута яна была да малазнаёмай афіцыйнай асобы.

— Кадры не толькі нехта падбірае, — адгукнуўся Круглікаў. — Гэта было б паўбяды. Кадры і самі падбіраюцца: сваёй воляй, сваімі сувязямі, сваёй праходнасцю. Многія вельмі здорава ўмеюць падбірацца!

Грабеннікаў нават здзівіўся: такім разумным і спачувальным быў пры гэтым погляд загорга. Атрымліваецца, і Круглікаў задумваўся!

Дома Грабеннікаў сеў за ліст Шостаку. Пісаў ён хутка, без памарак і чарнавікоў, заўсёды ў адным экземпляры. У першых радках, натуральна, абмаляваў стан з галоўнымі, гэта значыць, гаспадарчымі кадрамі. Палова дырэктараў саўгасаў былі народ прыйшлы і прывозны. На каго ні пакажы пальцам — кандыдат навук, як правіла, юрыдычных, гістарычных. Адзін праштрафіўся на больш высокай пасадзе, і яго, каб лягчэй перанёс паніжэнне, пусцілі сюды, у Іжаскі раён, які лічыўся Швейцарыяй Нечарназем'я, другому захацелася перабрацца з Сібіры, а тут былі ўплывовыя сябры, якія памаглі, у трэцяга выявіліся блізкія сваякі. І кожны, ледзь агледзеўшыся, пачынае будаваць катэдж, абавязкова ў найлепшай мясціне — гэта па-першае, а па-другое, прымае на давераную яму зямлю садовы кааператыўчык, а то і два, і ў кааператыўчыку тут жа аказваюцца людзі, якія ці спрыялі яго ўладкаванню на месца дырэктара, ці будуць спрыяць будучым поспехам. Некаторыя з гэтых кандыдатаў набывалі сілу незвычайную — Віблы Георгій Аляксандравіч на вачах Грабеннікава набыў яе літаральна за лічаныя тыдні. Працаваў старшынёй калгаса ў Сібіры, там яго ледзь было не выключылі з партыі за рукапрыкладства, давялося мяняць клімат, прыяцелі дапамаглі адшукаць месца — так у Іжаскім раёне паявіўся новы дырэктар, невысокага росту, шустры, напорысты чалавечак у скуранцы. Пачаў ён, вядома, са стварэння садовага таварыства для сваіх рабочых; ідэя добрая, усім яна падабаецца, усе яе падтрымліваюць, таму што, дзе рабочы, там і начальнік, дзе многа рабочых, там і тузы. Арганізацыі за імі стаяць багатыя і ўплывовыя, праз іх учора яшчэ невядомы саўгасік атрымлівае гаспадарчую падтрымку ад усёй Еўропы. На абзавод Віблаву патрэбна лепшае насенне збожжавых, лепшае насенне кармавых, лепшае насенне гародніны; яно і паступае: з Польшчы — рапс, з Бельгіі — канюшына, з Францыі—соя. А ад яго і праз яго штосьці перападае раёну, нават вобласці. Нейкага ўгнаення, нейкіх механізмаў не могуць дастаць ні райком з абкомам, ні асабіста Шостак з Выскрэбенцавым, а Георгій Аляксандравіч Віблы — можа, і глядзіш, ужо не ён просіць, а яго просяць, не ён шукае гасціннасці і дружбы, а ў яго шукаюць, і ён не адмаўляе: сакратар абкома па сельскай гаспадарцы Аднакапылаў, начальнік сельгасупраўлення Кубіцкі, упраўляючы абласной «Сельгастэхнікі» Пабярэжны— яго жаданыя госці, гудуць іншым разам да ранку. «Карацей, наша пакаленне яму рады не дасць», — парашыў Маслакоў, прыгледзеўшыся да гэтага Віблага.

І калі так будзе працягвацца, пісаў Грабеннікаў, дык Маслакоў, адзін з лепшых саўгасных дырэктараў у зоне і дэпутат Вярхоўнага Савета РСФСР, будзе мець рацыю. Грабеннікаў даказваў Васілію Іванавічу, што сітуацыя, якая склалася ў раёне, непасрэдна звязана з тым, што ў сваёй рабоце па навядзенні парадку і сумленнасці ў раёне ён дагэтуль не меў падтрымкі абкома. Кожнае пытанне, якое закранае чыесьці карыслівыя інтарэсы, даводзіцца перацягваць праз два волакі: адзін тут, у райкоме-выканкоме, другі там, у абкомаўскім апараце, у бліжэйшым акружэнні Шостака. Той жа Віблы быў першай асобай, наконт якой Грабеннікаў адразу атрымаў непасрэднае ўказанне з абкома: не чапаць. Званіў Аднакапылаў.

— Вас выбралі, — сказаў ён пахмура, — дык вы там Віблага не чапайце. На яго будуць пісаць, дык вы майце на ўвазе: гэта ўсё будзе па прыватных матывах.

— Разбірацца будзем з усёй аб'ектыўнасцю, — паабяцаў Грабеннікаў.

— Не трэба разбірацца. — настойліва паўтарыў Аднакапылаў. — Разбірацца не трэба.

— Не будзе сігналаў — не будзем разбірацца.

— Сігналы будуць.

— Тады будзем і разбірацца.

Сігналы пайшлі: хабар, прысваенні, фінансавыя парушэнні, безгаспадарчасць, самадурства. Сустрэў на вуліцы рабочага з вядром украдзенай фарбы — выліў яму на галаву...

Разумныя людзі добра разумелі спецыфіку становішча Грабеннікава ў Іжы. Іншым разам яму даводзілася чуць словы спачування нават ад пабочных людзей, такіх, як, напрыклад, адзін асвятляльнік здымачнай групы тэлебачання, што прыязджала ў раён па антыалкагольны вопыт, дзіўны чалавек гадоў пад пяцьдзесят, філосаф па адукацыі. Скончыўшы курсы асвятляльнікаў, ён пачаў ездзіць па краіне, асвятляць перадавікоў, даражыў магчымасцю падарожнічаць, бачыць новыя мясціны, новых людзей — любіў да іх прыглядацца: у святле яго лямпаў, казаў ён, многае відаць і сёетое аказваецца не такім, як пры звычайным асвятленні. Выключыўшы лямпы, якімі асвятляў Грабеннікава, ён загаварыў з ім менавіта пра адметнае становішча Іжы: чыстыя хваёвыя лясы, сухія пясчаныя глебы, прыгожыя краявіды, неблагія дарогі.

— Вам, напэўна, вельмі цяжка тут. Той, хто наважыцца тут сумленна працаваць, — смяротнік.

На выгляд асвятляльнік быў сціплы, але, захапіўшыся, фармуляваў рэзка, з азартнай упэўненасцю:

— Не сумленнасць рухае навуку, не сумленнасць перайначвае вытворчасць, не сумленнасць дабівае прыроду дзеля стварэння ўсё новых выгод і забаў!

— А што ж? — здзіўляўся Грабеннікаў. Для яго само сабой разумелася, што сумленнасць — аснова асноў. Без усталявання сумленнасці не разабрацца і з эканомікай. З гэтай думкаю ён падымаўся і клаўся, яна свяціла яму і саграявала яго ў самыя цяжкія хвіліны.

— Як што? Інтарэсы. Яны аснова і творчасці, і прагрэсу.

— Людзей з інтарэсамі зараз развялося шмат, а вось сумленных мала. Як вы лічыце: трэба несумленных людзей гнаць з партыі?

— Увогуле, дык, напэўна, трэба...

Віблага і яго акружэнне асвятляльнік, вядома, асуджаў, але неяк вяла: што, маўляў, зробіш, гэта іх жыццё, так яны ўладкаваны, для іх важна мець дачы, машыны, уладу.

— У мяне няма зайздрасці да іх дач і ўсяго іншага, — пераконваў яго Грабеннікаў. — Але калі б яны ўсё гэта зарабілі. Яны абіраюць народ, падрываюць сацыяльную справядлівасць у нашай краіне!

— Ну, а гэтыя, каго яны абіраюць, чаго дамагаюцца?—па-ранейшаму без напору пярэчыў асвятляльнік. — Таго ж: рэчаў, камфорту. Ну, атрымаюць трошкі пазней, чым Віблы, ці варта з-за гэтага перажываць? Я для сябе даўно вырашыў: не варта.

— Але ж яны не проста бяруць не сваё. Яны цэлую вайну ўсчыняюць, подласці ўсялякія робяць, лёсы людзей нявечаць!

— А тыя, каго яны абдзіраюць, хіба між сабою не грызуцца? Пабывайце як-небудзь у судзе, паслухайце, як дзеліць спадчыну якая-небудзь т р у д з я щ ч а я сям'я. Даўно ж сказана: ёсць толькі адзін клас людзей, якія яшчэ больш прагавітыя, чым багацеі: гэта беднякі.

У тым жа духу пра Віблага разважаў і Маслакоў:

— Не пашанцавала чалавеку, на вас нарваўся. Для дырэктара саўгаса ў нашай Швейцарыі даць ці атрымаць дваццаць тысяч хабару — што за злачынства? Вы яго проста пакрыўдзіце сваёй прыдзіркай. Усе так і зразумеюць: прыдзірка. Хто і не думаў, кінуцца яму памагаць.

Дырэктар саўгаса з аднаго боку і звычайны асвятляльнік — з другога, заслужаны гаспадарнік і інтэлігент, што не знайшоў свайго месца ў грамадстве, — абодва яны дагаворваліся да таго, што да жыцця ў XXI стагоддзі лепш падрыхтаваны не ён, Грабеннікаў, а злодзей Віблы!

— Але ж я нічога не парушаў! — кідаў Грабеннікаў свой апошні — сапраўды апошні довад. — Я сам шэсць гадоў быў дырэктарам саўгаса — і ніводнага кроку ў абыход закона не зрабіў. Ніводнага! І гаспадарка была не на апошнім ліку. Значыць, можна!

— Не парушалі, ведаю, — уздыхаў Маслакоў. — Але зірніце на сябе. Сівы, як лунь, вам яшчэ сарака няма...

Любячы Маслакова, паважаючы асвятляльніка, Грабеннікаў не вагаўся ў ацэнцы іх філасофіі. Член партыі і беспартыйны, яны абодва дапускалі аб'ектывізм і прымірэнства, а гэта лішні раз падкрэслівала асаблівую небяспеку віблых. Калі ўжо да Віблага прывыклі такія людзі, калі нават яны пачынаюць падводзіць базу пад яго існаванне, згодны пусціць гэтага нягодніка ў XXI стагоддзе — значыць, справа зусім дрэнь. Віблага трэба гнаць, а ад Шостака патрабаваць прынцыповай падтрымкі, таму што Віблы — наменклатура абкома. І, вядома, ставіць пытанне шырэй, Шостак жа член ЦК. Гэтае пытанне, якое яшчэ ўчора выклікала ў Грабеннікава баязлівасць у сувязі з яго агульным характарам і сакрушальным крытычным зарадам, пытанне аб аснове асноў партыйна-дзяржаўнага жыцця, сёння настойліва прасілася на паперу. Кадры, падбор кадраў! Указаннем на гэтую карэнную прычыну ўсіх нашых бед Грабеннікаў скончыў свой ліст Шостаку.

Пачакаў тры дні і паехаў сам.

У кабінеце Шостака на гэты раз было святлей. Васілій Іванавіч выглядаў чалавекам, які ці то папраўляецца пасля цяжкай хваробы, ці то пачаў звыкацца з ёю. Памочнік папярэдзіў, што ў размове аб справах не варта асабліва ўнікаць у праблемы. Шостак заўсёды з

(Заканчэнне на стар. 14—15).

## ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

# «ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ, АЛЕ...»

**Гаворка пра стан нашай мовы, якая распачалася ў рэспубліканскім друку некалькі гадоў назад, не аціхае да гэтага часу. Зноў і зноў у рэдакцыю прыходзяць шматлікія допісы, у якіх нашы чытачы выказваюць занепакоенасць развіццём білінгвізму ў рэспубліцы, просяць спецыялістаў выказаць свае меркаванні па гэтым пытанні. Спадзяёмся, што своеасаблівае сацыялагічна-лінгвістычнае даследаванне супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, якое штотыднёвік змяшчае сёння на сваіх старонках, праясняе некаторыя моманты гэтай няпростай праблемы.**

Пра моўную сітуацыю, што склалася ў БССР, і пра першыя вынікі работы сацыялінгвістычнага атрада «Двухмоўе ў БССР» ішла гаворка ў артыкуле А. Булыкі «Аднолькава свабодна валодаць» («ЛіМ» за 5.VI.87 г.). На працягу 1987 і пачатку 1988 года сацыялінгвістычны атрад у складзе 7 супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН БССР працягваў сваю работу. За гэты час абследавана 12 сельскіх раёнаў: Навагрудскі, Ушацкі, Горацкі, Івацэвіцкі, Вілейскі. Нясвіжскі, Асіповіцкі, Ашмянскі, Сенненскі, Валожынскі, Ляхавіцкі, Бялыніцкі і 4 раёны горада Мінска: Першамайскі, Цэнтральны, Партызанскі, Савецкі. Больш за 8 тысяч чалавек запоўнілі індывідуальныя анкеты, у якіх адлюстравалася сувязь нацыянальнай прыналежнасці, узросту, адукацыі, сферы вытворчасці з практычным выкарыстаннем той або іншай мовы ў сям'і і на працы, у транспарце, пры выступленні на сходах. Таксама былі атрыманы адказы на пытанні анкеты, якой мове аддаецца перавага пры чытанні кніг (асабліва беларускіх аўтараў), на якой мове больш падабаецца глядзець тэлеперадачы і слухаць радыё. Акрамя таго, члены атрада вялі назіранні за вусным маўленнем жыхароў гэтых раёнаў на прадпрыемствах, ва ўстановах, магазінах, сталовых. Беларуская мова ў розных дыялектных варыянтах гучыць у асноўным у вёсках. Размаўляюць на ёй і прызнаюць сваю мову беларускай калгаснікі і рабочыя саўгасаў, адукацыя якіх не вышэй сярэдняй. Такая ж сітуацыя назіраецца сярод рабочых райцэнтраў і гарадскіх пасёлкаў. Многія з іх падкрэсліваюць, што незалежна ад абставін і месца знаходжання гавораць толькі па-беларуску і «мову сваю ламаць не хочуць». Большасць жа служачых гаворыць на так званай «змешанай» мове, хоць некаторыя з іх адзначаюць, што пры патрэбе маглі б гаварыць па-беларуску, але ў вытворчай і афіцыйна-дзелавой сферы такой патрэбы няма. На Вілейшчыне вядомы выпадак, калі адзін старшыня калгаса зрабіў справаздачу на вялікай раённай нарадзе на беларускай мове, за што атрымаў спагнанне. А калі інжынер ДЭУ на Валожыншчыне напісаў справаздачу па-беларуску, яму было прапанавана зрабіць дадатковы варыянт на рускай мове.

У партыйных і савецкіх установах, у школах, нават у рэдакцыях газет, якія выдаюцца на беларускай мове, па-беларуску не размаўляюць. Больш таго, вытворчыя нарады ў большасці рэдакцый праводзяцца на рускай мове. Практычна беларускую літаратурную мову можна пачуць толькі ад добрых настаўнікаў-беларусаведаў і некаторых рэдактараў раённых газет. Прадстаўнікі асноўнай масы насельніцтва гарадоў і гарадскіх пасёлкаў сярэдняй, сярэдне-спецыяльнай і вышэйшай адукацыі адзначаюць, што гаварыць па-беларуску не ўмеюць, асабліва на літаратурнай мове, але чытаюць і пры патрэбе маглі б пісаць.

Усіх праблем беларуска-рускага двухмоўя мы закранаць не будзем. Пра многае гаварыць яшчэ рана, але прапановы анкетаваных па моўнай сітуацыі ў рэспубліцы дазваляюць выявіць адносіны самых шырокіх слаёў насельніцтва да лёсу роднай мовы. «Люблю беларускую мову, чытаю і пішу, але размаўляю дрэнна» (рэжысёр, Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культасветработы, г. Мінск); «Беларускую мову разумею, чытаю, слухаю, пішу, але не гавару» (журналіст, Дзяржтэлерадыё, г. Мінск); «Беларускую мову ведаю, але карыстацца — ніколі не карыстаюся» (электрык, аўтабаза, г. Горкі); «Дрэнна ведаем сваю родную беларускую мову, а шкада» (выхавацель дзіцячага сада, г. п. Бялынічы); «Хачу, каб нашу родную мову не забывалі, больш размаўлялі на роднай мове» (вучань, СШ в. Цяхцін Бялыніцкага раёна) і г. д. У тым, што роднай мовай не карыстаюцца, нашы суайчыннікі бачаць нацыянальную трагедыю: «Лічу трагедыяй свайго народа няведанне беларускай мовы і забыццё яе. Калі беларусы хочуць захавацца як нацыя, то, акрамя ведання рускай мовы, неабходна такое ж веданне і роднай» (настаўнік, СШ № 54, г. Мінск); «У кожнага народа павінна быць свая мова» (юрыст, ф-ка канцтавараў, г. Асіповічы); «Мы — беларусы, але без мовы не бывае нацыі» (настаўнік, СШ № 1, г. Асіповічы); «Сэрца баліць, што няма сваёй мовы, у іншых жа рэспубліках няма такога» (рэзчык шкла, Вытворчае аб'яднанне люстраных вырабаў, г. Мінск); «Нікуды не варта, што прыязджаюць на Беларусь есці беларускі хлеб, сала, а мовы не ведаюць і не хочуць ведаць» (майстар вытворчага навучання, з-д «Тэрмапласт»); «Трэба ратаваць беларускую мову» (маркшэйдэр, Метрабуд, г. Мінск).

Чаму склалася такое становішча з беларускай мовай? Прычыны яскрава ўсведамляюцца яе носьбітамі. Гэта недастатковая ўвага да вывучэння роднай мовы ў школах, навучальных установах, падзенне яе прэстыжнасці. «Не вучаць у школе беларускай мове, таму не ўмеем гаварыць, ні па-руску, ні па-беларуску (ст. дыспетчар, аўтабаза № 19, г. Асіповічы); «Наогул у гарадах і гарадскіх пасёлках, а галоўнае ў навучальных установах Беларусі беларуская мова вывучаецца на ўзроўні замежнай, таму такі і вынік» (інжынер-тэхнолаг, Камбінат грамадскага харчавання, г. Нясвіж); «Трэба са школы вучыць, з першага класа толькі па-беларуску, таму што ў выніку атрымліваецца няведанне як рускай, так і беларускай моў» (шафёр, ДЭУ, г. Нясвіж); «Мала ўвагі да вывучэння беларускай мовы» (тэхнолаг, з-д «Тэрмапласт», г. Мінск); «Беларуская мова лічылася «дзеравенскай», а руская — гарадской» (журналіст, рэдакцыя раённай газеты, г. Сянно); «Чамусьці ў гарадах Беларусі лічаць непрыстойным размаўляць на сваёй роднай мове» (медсястра, райбальніца, г. Нясвіж); «Калі б было прынята гаварыць па-беларуску, з задавальненнем выступала б і гаварыла па-беларуску» (выкладчык гісторыі, Дзяржархіў, г. Мінск); «Па тэлевізару не зусім добра гавораць па-беларуску, здаецца, і памог бы яму. Па-руску неяк лаўчэй атрымліваецца» (аператар па адкорме жывёлы, в. Жарабковічы Ляхавіцкага раёна); «Мы ж, беларусы, абавязаны пісаць на рускай мове, таму што ўся дакументацыя — на рускай, ды і ва ўсіх навучальных установах выкладанне на рускай мове. Ды і нашы дыктары, як на радыё, так і на тэлебачанні, самі дрэнна валодаюць беларускай мовай. Артысты тэатра імя Янкі Купалы таксама стараюцца паказаць сваё валоданне рускай мовай» (заатэхнік, в. Баруны Гродзенскай вобл.); «Засмечана беларуская мова нейкімі непатрэбнымі фразамі, якія рэжуць слых» (выкладчык, Архітэктурна-будаўнічы тэхнікум, г. Мінск).

Зварот да сучаснага стану беларускай мовы ўспрымаецца грамадскасцю як неабходны працэс «адраджэння» роднай мовы: «Вялікая просьба адрадзіць славу нашай мовы» (майстар, Падшыпнікавы з-д, г. Мінск); «Беларускую мову неабходна адрадзіць» (інжынер-электрык, ЦЭЦ-3, г. Мінск); «Я асабіста за беларускую мову, каб усё было на роднай мове. Пара за яе ўзяцца» (інжынер па кадрах, Медрамзавод, г. Мінск). Апытаныя выказалі і канкрэтныя рэкамендацыі, як захаваць нацыянальную мову, дамагчыся агульнага прызнання і павагі яе: паляпшэнне выкладання беларускай мовы, пашырэнне сфер яе ўжывання ў справаводстве, друку, рэкламах, назвах вуліц, населеных пунктаў і г. д., павелічэнне беларускамоўных тэле- і радыёперадач, павышэнне культуры валодання мовай; выхаванне дзяцей і моладзі на лепшых нацыянальных традыцыях. «Жадаю, каб у школах Беларусі беларуская мова вывучалася больш шырока» (настаўнік СШ № 73, г. Мінск); «Навучанне ў школах і педагагічных навучальных установах абавязкова праводзіць на беларускай мове» (гідратэхнік, г. п. Бялынічы); «Весці навучанне толькі на беларускай мове» вучань СШ, в. Цяхцін Бялыніцкага раёна); «Хацелася б, каб у рэспубліцы надавалася больш увагі да вывучэння беларускай мовы» (архітэктар, НДІ «Белсельбудпраект», г. Мінск); «Для адраджэння беларускай мовы неабходна ўсе дысцыпліны школьнай праграмы выкладаць на беларускай мове» (інжынер-электрык, ЦЭЦ-3, г. Мінск); «У школах, тэхнікумах, г. зн. ва ўсіх навучальных установах, весці выкладанне на беларускай мове» (эканаміст, г. п. Бялынічы); «Зрабіць абавязкова першым уступным экзаменам для выпускнікоў школ Беларусі дыктоўку па беларускай мове. Павялічыць колькасць гадзін на яе вывучэнне. Зрабіць праграму па беларускай літаратуры больш змястоўнай і цікавай» (настаўніца, СШ № 1, г. п. Бялынічы); «Уступныя экзамены ў ВНУ здаваць на беларускай мове» (выкладчык, СПТВ, г. п. Бялынічы); «Адкрыць беларускія школы ў горадзе Мінску і другіх гарадах рэспублікі» (культасветработнік, г. Мінск); «Неабходна, каб тэксты кантрольных работ Міністэрства асветы прысылалі ў беларускія школы на беларускай мове» (настаўніца, СШ, в. Сава Горацкага раёна); «Хацелася б, каб мову беларускую не ўшчамлялі: усе падручнікі ў нашай беларускай школе на рускай мове» (каваль, в. Лань Нясвіжскага раёна); «Каб я была міністрам, то перавяла б усе школы на беларускую мову. А то паспрабуй цяпер паступі ў інстытут, гаворачы па-беларуску — цяжка!» (начальнік пошты, в. Падлессе Ляхавіцкага раёна); «Зрабіць беларускую мову агульнай, пачынаючы з дзіцячага сада» (журналіст, г. Мінск); «Патрэбна больш увагі ўдзяляць вывучэнню беларускай мовы ў школе, а таксама ўсё справаводства весці на беларускай мове» (настаўнік, СШ, в. Асіпавічы Вілейскага раёна); «Навучанне ў школах, навуковых установах, ВНУ праводзіць на беларускай мове. Назвы гарадоў, вуліц, устаноў даваць на роднай мове. У сферы абслугоўвання і на рабоце размаўляць па-беларуску» (гідратэхнік, г. п. Бялынічы); «На беларускай мове павінны быць вітрыны і назвы магазінаў, кінатэатраў, цырульняў, шыльды і г. д.» (урач, г. п. Бялынічы); «Трэба ўводзіць беларускую мову ў сферу абслугоўвання, сувязь, транспарт» (эканаміст, г. п. Бялынічы); «Лічу неабходным і патрэбным увесці беларускую мову ва ўсе сферы жыцця» (урач, г. Мінск); «Пажадана, каб выступленні ў дзяржаўных установах былі на беларускай мове» (настаўніца, в. Любішчыцы Івацэвіцкага раёна); «Вельмі хочацца, каб беларуская мова больш гучала ў дзяржаўных дакументах, у рэкламах — усюды» (настаўніца, в. Любішчыцы Івацэвіцкага раёна); «Больш здымаць кінафільмаў на беларускай мове» (тэхнік-гідратэхнік, г. п. Бялынічы); «Павялічыць колькасць тэлепраграм на беларускай мове» (інжынер, г. п. Бялынічы); «Каб вышэй падняць нашу родную мову сярод моладзі, больш трэба па тэлебачанні і радыё пускаць у эфір папулярных праграм, асабліва музычных, дзе можна звязаць у адно развіццё мовы і выхаванне павагі да яе, пры гэтым не паўтараць рускія праграмы» (выкладчык педвучылішча, г. Горкі Магілёўскай вобласці); «Не скажаць беларускую мову, змагацца за яе чысціню» (фармацэўт, г. п. Бялынічы); «Больш за ўсё люблю сваю родную мову, але калі гэта чыстая мова» (заатэхнік, в. Баруны Ашмянскага раёна); «Бацькі павінны прывіваць любоў да ўсяго роднага» (настаўніца, СШ № 1 г. Асіповічы); «Шырэй прапагандаваць беларускую мову (кінафільмы, рэкламы, лозунгі і г. д.); кнігі, якія карыстаюцца попытам, выдаваць на беларускай мове» (выкладчык СПТВ, г. п. Бялынічы); «Папулярызаваць багацце беларускай культуры» (урач, г. п. Бялынічы); «Выпускаць больш літаратуры (добрай) на беларускай мове» (муз. работнік, г. п. Бялынічы); «Больш увагі звяртаць на беларускую культуру, фальклор, мову» (настаўніца СШ № 1 г. п. Бялынічы); «Трэба пачынаць мяняць адносіны да роднай мовы ўраду нашай рэспублікі» (настаўнік, в. Цяхцін Бялыніцкага раёна); «Лічу неабходным прывіваць павагу да беларускай культуры, беларускай мовы, а калі не ведаеш яе, то не здзекуйся з яе» (выкладчык палітэхнікума, г. Мінск); «У кніжным магазіне прашу: «Дайце Шамякіна». Кажуць: «Только на белорусском языке». «Дык я ж і хачу на беларускай мове, а не на рускай!» (інспектар па кадрах, г. Ляхавічы).

У анкетах вельмі многа выказванняў аб любві і павазе да беларускай мовы, і не толькі беларусаў па нацыянальнасці: «Люблю беларускую мову, хацелася б, каб яе вывучалі больш дбайна» (слесар-зборшчыца завода «Тэрмапласт», г. Мінск); «Валодаю дзвюма мовамі аднолькава, але больш люблю беларускую» (гісторык, г. Мінск); «Беларуская мова вельмі патрэбна нам» (аграном, г. п. Бялынічы); «Як прыемна слухаць у беларускіх перадачах па радыё прадстаўнікоў беларускай навукі самага высокага ўзроўню — доктара біялагічных навук Саўчанку, майстроў беларускай сцэны — Л. Давідовіч, С. Станюту, Т. Шымко. Міжволі думаеш: высокі прафесійны ўзровень адпавядае агульнаму культурнаму, у які неад'емнай часткай уваходзіць валоданне роднай мовай» (настаўніца, г. п. Бялынічы); «Люблю чытаць па-беларуску» (ветфельчар, в. Жарабковічы Ляхавіцкага раёна); «Вельмі прыемна слухаць, калі гавораць па-беларуску, напрыклад, у Мінску, у раёне прыпынку «Дома друку» (майстар вытворчага навучання ПТВ, г. Мінск).

Але каб усе беларусы ставіліся так да роднай мовы, тады б не паўстала пытанне пра яе лёс. Сустракаюцца ў анкетах і процілеглыя думкі, што беларуская мова непатрэбна нам, што яна толькі перашкаджае авалоданню рускай мовай: «Лічу, што ў школах цяжка вывучаць беларускую мову таму, што яна блізкая да рускай» (вязальшчыца КБА, г. п. Бялынічы); «Трэба, каб дзеці ў сельскай мясцовасці вывучалі больш рускую мову, бо ва ўсіх ВНУ дысцыпліны выкладаюцца на рускай мове» (тэхнолаг вузла сувязі, г. п. Бялынічы); «Рускай мовы ў нас не ведаюць, блытаецца з беларускай» (шліфоўшчык УНДІБМІ, г. Мінск); «Хаця я і беларуска, але аддаю перавагу рускай мове» (вучаніца, г. п. Бялынічы); «Выключыць беларускую мову з выкладання і ўсе школы перавесці на рускую мову навучання. Усю літаратуру на беларускай мове спаліць! А лепшыя творы перакласці на рускую мову» (урач, г. п. Бялынічы).

Большая частка выказванняў дае ўсё ж падставы для аптымізму. Як падагульненне ўсяму сказанаму прывядзём радкі з верша «Родная мова» Веры Дыдышкі, апублікаванага ў гэтым годзе ў ляхавіцкай раённай газеце «Будаўнік камунізму»:

**Беларуская родная мова...**
**Даражэйшай не знойдзеш нідзе,**
**І прывеціць нас роднае слова,**
**І сагрэе ў журбе і бядзе.**

**Скарбаў ты не шукай адмысловых:**
**Мову-маці ў скарбонку вазьмі.**
**Беларуская родная мова —**
**Найвялікшы твой скарб на зямлі.**

**Г. ВЕШТАРТ, Т. КУЗЬМЯНКОВА, Л. КУНЦЭВІЧ, В. НІКАЛАЕВА,** супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа **АН БССР.**

## КНІГАПІС




Н. ТУЛУПАВА. Я салаўя шукала. Вершы, паэма. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1987.

**Паэма Н. Тулупавай «Дабрадзея» і лепшыя вершы паэтэсы перакладзены на рускую мову С. Яўсеевай. У творах паўстае шматгранны свет нашай сучасніцы, якая жыве турботна, паяднoўваючы ў сваёй душы дзень сённяшні і ўчарашні, кідаючы позірк у заўтра.**




С. ШУШКЕВІЧ. Апавяданні пра Марата Казея. Для сярэдняга школьнага ўзросту. Мінск. «Юнацтва», 1988.

**У чарговы раз, цяпер у серыі «З арлінага племені», юныя чытачы пазнаёмяцца з кнігай Станіслава Шушкевіча «Апавяданні пра Марата Казея». У параўнанні з папярэднімі выданнямі тут змешчаны шэраг новых навел, якія дазваляюць яшчэ больш даведацца пра юнага героя.**




В. ГАРДЗЕЙ. Коцікі на вярбе. Вершы і казкі. Для дзяцей дашкольнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1988.

**Чарговая кніжка Віктара Гардзея «Коцікі на вярбе», адрасаваная дзецям. Дасціпна, з тонкім гумарам расказвае аўтар пра жыхароў лесу, знаёміць з рознымі раслінамі. Увайшлі ў зборнік і казкі—як арыгінальныя, так і пабудаваныя на традыцыйных сюжэтах.**




В. ТРЫХМАНЕНКА. Сяргей Грыцавец. Дакументальная аповесць. На рускай мове. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**Герой дакументальнай аповесці Віктара Трыхманенкі «Сяргей Грыцавец», што папоўніла серыю «Слава твая, Радзіма!», наш зямляк, вядомы савецкі лётчык, які першым стаў двойчы Героем Савецкага Саюза.**

**Расказваючы пра героя, В. Трыхманенка асабліва пераканаўчы тады, калі гаворыць пра яго высокае лётнае майстэрства. І гэта невыпадкова. Перш чым стаць пісьменнікам, аўтар аповесці быў лётчыкам-знішчальнікам.**

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# НЯЎЛОЎНАЯ ПТУШКА МАЙСТЭРСТВА

**А. Пенязь. Стрэл у цішыні. Аповесць, апавяданні. Серыя «Першая кніга празаіка». Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.**

Імя Анатоля Пенязя не сказаць каб шмат гаварыла нават чытачу дасведчанаму, які пастаянна сочыць за газетнымі і часопіснымі публікацыямі. Не надта прыцягнуў да сябе ўвагу і дэбют аўтара. Яшчэ ў 1979 годзе ў «Маладосці» з'явіліся яго першыя творы, і хоць у тых пробах пяра сваё, пачэрпнутае з уласных назіранняў суседнічала з кніжным, літаратурным, адчувалася здольнасць А. Пенязя ўзнімацца над фактамі, ісці ўглыб іх. Прываблівала неблагая мова, асабліва ў гаворцы персанажаў.

Тым не менш, дэбют «не прагучаў». І ў гэтым ужо ў пэўнай меры бачыцца і віна нашай крытыкі, якая вельмі любіць прытрымлівацца адных і тых жа імёнаў і ў дачыненні да маладых, не кажучы ўжо аб аўтарах масцітых. Балазе, цяпер можна пагаварыць пра творчасць А. Пенязя — выйшла з друку яго першая кніжка з даволі інтрыгуючай назвай «Стрэл у цішыні».

Кароткая прадмоўка, напісаная Генрыхам Далідовічам, падае звесткі пра аўтара. Нарадзіўся А. Пенязь на Случчыне, рана застаўся без маці, пасля заканчэння будаўнічага вучылішча працаваў цеслем, служыў у Савецкай Арміі і вось звыш дваццаці гадоў шафёрыць. Ужо ў даволі сталым узросце — летась А. Пенязю споўнілася сорак гадоў — паступіў на філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна, які нядаўна закончыў.

Біяграфія самая што ні ёсць звычайная. Быў бы да ўсяго талент, уменне багатыя жыццёвыя назіранні належным чынам асэнсаваць. А. Пенязь, як паказалі яго лепшыя апавяданні, змешчаныя ў рэспубліканскай перыёдыцы, такімі творчымі задаткамі валодае. Здольнасць заставацца самім сабой, расказваючы перш за ўсё аб тым, што лепш ведае, што яму ўнутрана блізка, бачыцца і ў творах, якія ўвайшлі ў кнігу. Больш таго, якраз там, дзе аўтар давяраецца ўласнаму вопыту, яму спадарожнічае поспех, і, наадварот, адыход ад гэтага вядзе да літаратуршчыны.

Пацвярджэнне таму і аповесць «Захар і Клава». У пачатку твора, у першай яго частцы «Маладосць», дзе расказваецца аб юнацтве герояў, іх каханні, што нарадзілася яшчэ ў школьныя гады, аўтару, на жаль, не ўдаецца пазбавіцца таго знаёмага і разам з тым неабавязковага, што нічога істотнага ў раскрыццё духоўнага свету Захара і Клавы не ўносіць. Часам дае аб сабе знаць звычайная канстатацыя факта. Інфармуючы аб жыцці персанажаў, іх душэўных зрухах, А. Пенязь, здавалася б, зусім не клапоціцца, каб гэта належным чынам аздобіць — па-мастакоўску выразна, непаўторна: «Першае каханне... Цяпер Клава добра адчула, якое яно спачатку вельмі кволае, але потым мацнее. І калі чалавек разумее, што ён не памыляецца, што сапраўды сустрэў таго, каго варта кахаць, у гэты час закрадваецца сумненне: а ці кахаюць мяне так, як кахаю я? Так часта думала Клава, пазіраючы ў акно».

«Другое дыханне» ў аповесці з'яўляецца тады, калі аўтар *пачынае расказваць аб далейшым жыцці герояў, перажыўшых сваё першае, няхай і не такое вялікае выпрабаванне:* Захар адслужыў у войску, вяртаецца дахаты. Хіба можна выказаць словамі настрой дзяўчыны, якая чакала яго гэтыя два гады? Аднак, калі Клава перажывае радасць і хваляванне ад сустрэчы з каханым, якога праз акно ўбачыла на падворку, дык у душы яе маці падспудна жыве трывога: а ці той чалавек Захар, за якога трэба аддаваць замуж дачку? Старая па-свойму спрабуе «праверыць» будучага зяця:

«— А дзе ж Клава?

— Дзе ж ёй быць?.. Ці яна табе не пісала?

— Што? — з хваляваннем запытаў Захар. — Не дачакалася?

— Чакаць-то чакала, Захарка, але доля наша жаночая такая: хто бярэ, за таго ідзі, а будзеш перабіраць, то і ў дзеўках застанешся...»

Суровы іспыт... Нездарма ж Захар «кінуў вобзем чамадан і штурхнуў дзверы ў залу», каб адразу ўсё высветліць у Клавы. Гэты невялічкі эпізод дазваляе зазірнуць у душу простай жанчыны, што так жадае сваёй дачцэ шчасця і якая, не надта разбіраючыся ў тонкасцях этыкету, па-свойму экзаменуе хлопца, прываблiваючы мяне, чытача, сваёй сялянскай шчырасцю і разам з тым пэўнай наіўнасцю.

Хораша расказвае А. Пенязь пра тое, як Захар з бацькам косяць траву, і юнак адчувае сябе такім патрэбным у роднай вёсцы. І сустрэча са старым Хведаровічам, лесніком — з эпізодаў, якія выпісаны каларытна, з лірычна-паэтычным пейзажам, са строга індывідуалізаванай гаворкай персанажаў. Праўдзіва перадае А. Пенязь душэўны стан Захара, калі той адгукнуўся на просьбу старшыні калгаса, сеў за руль аўтамашыны, каб дапамагчы ў гарачую часіну жніва. За ўсім гэтым бачыцца веданне жыцця, угадваюцца і пэўныя аўтабіяграфічныя моманты. Моцнасць дакументальнай асновы адчувальна ў прывязанасці дзеяння аповесці да канкрэтных мясцін. Тыя з чытачоў, хто родам са Случчыны, пазнае вёскі Васількова (у ёй А. Пенязь нарадзіўся), Вясея, Амговічы...

Здавалася б, у Захара ёсць усё, да чаго імкнуўся, — жонка, якую кахае, любімая работа. Дык чаму сталася так, што ён парваў з сям'ёй, а затым па сутнасці стаў на шлях злачынства? Аб гэтым другая частка аповесці — «Сталасць».

Ад шчасця шчасця не шукаюць — кажуць у народзе. Выслоўе правільнае. Захар пачынаў з «простага» — дзе трэба і дзе не трэба выстаўляў сваю незалежнасць перад жонкай. Імкнуўся да самастойнасці — прыйшоў да духоўнай дэградацыі і маральнай спустошанасці.

Аўтар далёкі ад лакальнага вырашэння канфліктных сітуацый, спрошчанага вытлумачэння ўчынкаў персанажаў. Іншая справа, што яму не заўсёды хапае майстэрства. Правільна заўважыў гэта Г. Далідовіч, А. Пенязь, на яго думку, «часамі нібы асцерагаецца давярыцца свайму багатаму жыццёваму вопыту, у тым ліку і шафёрскаму, свядома трымаецца паблізу ўжо вядомых літаратурных сюжэтаў альбо пэўных абыходных гісторый-анекдотаў, не столькі аналізуе, даследуе, колькі інфармуе».

Інфармацыйнасць шкодзіць, у прыватнасці, апавяданню «Стрэл у цішыні». Не вырато́ўвае і падзагаловак: «Быль, расказаная бацькам». Маўляў, вер мне, чытач, на слова. Відаць, няма патрэбы нагадваць, што не ўсё, магчымае ў жыцці, варта таго, каб трапіць на старонкі мастацкага твора.

У апавяданні ж «Таксі! Хто свабодны?» А. Пенязь ужо не толькі інфармуе чытача, а і даследуе людскія лёсы. Пры тым даследаванне гэтае падмацавана выразнымі эпізодамі з шафёрскага жыцця.

Удаўся аўтару вобраз галоўнага героя Валодзі Вароніча, маладога таксіста, у якога не ўсё ладзіцца ў асабістым жыцці. У гэтым сэнсе Варонiч у нечым падобны на Захара з аповесці «Захар і Клава». Але калі Захар інфантыльны, няздольны супрацьстаяць жыццёвым абставінам, дык Варонiч прывабліваe выразнасцю грамадзянскай пазіцыі, душэўнасцю, здольнасцю і ўменнем хутка знайсці кантакт з незнаёмымі людзьмі. І не віна яго, а бяда, што няма ўзаемаразумення з жонкай, якая схавалася ў скарлупіне дробязных крыўд і папрокаў.

Заяўка на пэўныя характары зроблена і ў апавяданні «Пахаваная смерць», якое аўтар прысвяціў «светлай памяці маці Вольгі Раманаўны і бацькавага франтавога сябра Івана Гапоненкі». Аб дакументальнасці асновы сведчыць і тое, што адзін з персанажаў таксама мае прозвішча Гапоненка. Расказваючы пра пасляваеннае пабрацімства людзей ужо сталага веку, А. Пенязь вяртаецца і ў гады іх мінулага. Прываблівае *адкрытасцю, даверам да іншых* Піліп Латан, бацька двух сыноў, які адзінока дажывае свой век у вёсцы. Здавалася б, нічога незвычайнага аўтар не адкрывае, ды апавяданне запамінаецца.

Прага самастойнасці, *зразумелая кожнаму, хто ступае на* літаратурную сцяжыну, павінна падмацоўвацца і немалым жыццёвым вопытам, і тым, што звычайна называецца біяграфіяй унутранай — не заўсёды прыкметнымі, часам ледзь бачнымі спружынамі, якія рухаюць нараджэннем аўтарскай фантазіі. Гэта ў А. Пенязя ёсць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## КУПАЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

**У маі Літаратурны музей Янкі Купалы і СП БССР сабралі даследчыкаў і прапагандыстаў творчасці вялікага беларускага паэта для правядзення Купалаўскіх чытанняў. На гэты раз яны былі прысвечаны 106-й гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы і 80-годдзю з дня выхаду яго першага паэтычнага зборніка «Жалейка».**

**Два дні ў вялікай зале Дома літаратара музейныя работнікі і выкладчыкі ВНУ, супрацоўнікі літаратуразнаўчых інстытутаў і мастацтвазнаўцы з розных рэспублік нашай краіны абмяркоўвалі праблемы вывучэння творчай спадчыны Янкі Купалы. Тэматыка дакладаў была вельмі цікавая: уводзіліся ў навуковы ўжытак малавядомыя факты біяграфіі Купалы, паглыблялася разуменне сацыяльна-філасофскіх і эстэтычных поглядаў пісьменніка. Серыя дакладаў была прысвечана пытанням узаемасувязей творчасці беларускага паэта з прадстаўнікамі іншых нацыянальных літаратур. І гэта невыпадкова, бо песняра Беларусі звязвалі цесныя жыццёвыя і творчыя сувязі з многімі пісьменнікамі братніх народаў.**

**Але навуковая канферэнцыя — гэта не толькі даклады і паведамленні, а і свабодны абмен думкамі, знаёмства з жыццём народа, які даў свету вялікага паэта. Мы ўдзячны супрацоўнікам Літаратурнага музея Янкі Купалы за прадстаўленую нам магчымасць далучыцца да ўсяго, што мы называем «свет Янкі Купалы». Надоўга запомніцца паездка ў Вязынку, на радзіму паэта, доўга будзе гучаць у сэрцах удзельнікаў канферэнцыі непаўторная музыка купалаўскіх радкоў.**

**М. ЛІТОЎСКАЯ, Т. СНЕГІРОВА, выкладчыкі Уральскага дзяржуніверсітэта.**

# З КЛОПАТАМ ПРА СПАДЧЫНУ

**Патрэбен энцыклапедычны збор помнікаў беларускай літаратуры**

Кожнае факсімільнае выданне помнікаў літаратуры мінулага — значная падзея ў культурным жыцці рэспублікі. Зборнікі «Жалейка», «Вянок», «Песні-жальбы», «На этапах», «Словарь белорусского языка» Насовіча, а сёння і «Матчын дар» Алеся Гаруна прынеслі сапраўдную радасць усім аматарам беларускай паэзіі і роднай культуры. Шкада толькі, што такія падзеі ў нас адбываюцца вельмі ж рэдка. І хоць добры пачатак пакладзены, трэба прызнаць, што ён пакуль што яшчэ празмерна сціплы.

Я калісьці працаваў у бібліятэцы Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук (тады гэта яшчэ быў аддзел, а не самастойны інстытут). Мне спатрэбіўся адзін славістычны часопіс XIX ст. Калі я запытаўся, дзе яго можна знайсці, мне сказалі, што ёсць і ў іх. І я сапраўды атрымаў факсімільнае выданне, ажыццёўленае спецыяльна для навуковых мэт. І падумалася: а калі ж гэ-

## НАШ КАЛЯНДАР

# ПРАЗ ФІЛЬТР ЧАСУ

**Упершыню я ўбачыў Сцяпана Майхровіча на вялікай і надта ж у тыя часы адказнай пасадзе дырэктара Дзяржаўнага выдавецтва БССР. За чатыры гады ў армейскіх умовах жыцця ў мяне склалася вельмі моцнае ўяўленне пра субардынацыю, і само слова «дырэктар» у дачыненні да выдання кніг гучала для мяне прыблізна як «генерал». Помню, як гэты «генерал», здаралася, крочыў па калідоры на чацвёртым паверсе Дома друку і размахваў толькі што знятым з друкарскага станка зборнікам — «У роднай хаце» П. Броўкі або «Добры дзень» А. Астрэйкі, «Гарачыя вятры» П. Панчанкі або «Поўдзень» В. Віткі, «Салют у Мінску» А. Вялюгіна ці «Каб ведалі» М. Танка... Надрукаваныя на пажоўклай паперы, з вельмі сціплымі вокладкамі, яны неслі подых тае светлай пары, якой пазначаны быў здабыты намі мір, яшчэ працяты рэхам вайны і ўжо асветлены агнямі пераможных салютаў. Нават у назвах — поступ часу. Часу вяртання, часу адраджэння, часу адбудовы. А я чую тупат імклівай хады С. Майхровіча па калідоры і гэты ганарлівы вокліч: «Анатоль Вялюгін... «Салют у Мінску». Першая кніжка, ды затое — якая: пацягне цяжэй за іншы том...»**

**Мабыць, не будзе перабольшаннем сказаць, што гэты чалавек у сярэдзіне 40-ых са-**

**Мікола МЯТЛІЦКІ**



## Хроніка аднаго вечара

Стратаў зямных,
Чырвоная кніга,
Старонку для запісу адгарні:
Я дыхаў пылам тваім, Няміга,
Які клубіўся,
поўнячы дні
Глухасці нашай і застою,
Лудзіў глоткі — да хрыпаты!
Ступаў я побач
зямной вярстою,
Пылам мяне
асыпала ты.
...Калі на горад плылі крыжаста
«Месеры» карычневае чумы,
Разам з людзьмі
сціналіся з жахам,
Няміга,
і твае дамы.
Чырвоным рэбрам цаглянай кладкі
Яны,
запыленыя,
зірнулі пасля,
Калі надрывіста, без агляднi,
Хадзіла «баба»,
Гула зямля.
О, колькі пылу!
Як густа, крута
Ён плыў над горадам, чорны, тады.
Адышкі нашай зямной пакута.
Няміга, дай мне глыток вады!
Стагоддзяў даўніх скразная страта,
Стагоддзяў новых — зямны віток.
Гарляк гарачага тэхнакрата
Сягоння студзіць святы глыток.

Сягоння рвуцца
застою жылы,
П'ючы вячыста тваю бруню.
Я з-пад абломкаў,
з-пад друзу, пылу,
На чэзлым сметніку —
устаю.

## Балада пра плот

Зялёны плот мне вочы коле,
Стаіць паміж залеў, спякот.
Над круцізной народнай долі —
Высокі плот, замшэлы плот.

Узяўшы плошчу шчыльна ў сховы,
Вядзе маўчанне гучны код.
Над пачуццём перабудовы —
Высокі плот, замшэлы плот.

Стаяць твае цяжкія краты
Над слыннай памяццю зямлі.
Заслон надзейны бюракраты
З патуг амшэлых узвялі.

Паверыць дай, што гэта прымхі!
Малю Айчыны небясі,
Што сёння ж ты аковы прымеш
І Волі розгалас дасі.

Тужэй падціснуты папругі
Духоўна ўсохлага Дабра.
О вы, айчынныя хапугі,
Вам зразумець адно пара:

Наш лёс — паліты горкім потам,
Святыя нашы мазалі,
Што мы наводшыбе, за плотам,
Без ліку год і так былі.

Адкрыйце душ мізэрных сховы:
Ваш марыць плот, што прыйдзе дзень
І сонечнай перабудовы
Астатні выблісне прамень!

І ўзыдзе ява — эшафотам,
І будзе спудным кожны крок,
І раскашуе зноў за плотам
Глыбокі змрок, таемны змрок.

Шлях ад ухвалы да апалы
У холад зыбкае жарствы?
На геній вечнага Купалы
Ярлык наклейвалі вы!

Зірні наўкол — якія страты,
Якія духу дзірваны!
Ваш плот высокі, гарлахваты,
За ім гнядзе — рай зямны.

Ды ўсё ж я веру — хопіць поту:
У гэты дзень, у час такі
Павырвем гнеўна з дошак плоту,
Іржой узятыя цвікі.

Мы скажам свету ў абнаўленні
Над вашай чэляддзю глухой:
Наш дух збудзіў Вялікі Ленін,
А вы? — услед ішлі трухой.

Вы сталі «розумам», «аплотам»,
А самі — млелі ад шчадрот.
Багата год пад вашым плотам,
Глынуўшы гары, спаў народ.

Шапталі ўцешна казкі-былі
Пра родны край, пра ўласны род.
Ды ўсё ж сябе адных любілі,
Душой схаваўшыся за плот.

Народзе мой, якія словы
Ты шэпчаш, зорачы вачмі?
Вялікі час перабудовы
Душой абуджанай прымі!

Дрыжэць не любяць гарлахваты,
У іх — свой росшук праваты.
За боль зямлі, за духу страты
Карчуй, народ, маны платы!

Ганарар прашу пералічыць у Фонд культуры на рахунак будаўніцтва помніка Кастусю Каліноўскаму.



Фотаэцюд С. КРЫЦКАГА.

**Павел ПРУДНІКАЎ**



У 1975 годзе я наведаў «край белай маўклівасці» — Таймыр з яго сённяшняй індустрыяльнай сталіцай — горадам Нарыльскам, дзе я ў гады сваёй горкай маладосці правёў шмат паднявольных гадоў. На працягу амаль што месяца я знаёміўся з новымі грандыёзнымі забудовамі краю, успамінаючы былыя палаткі і часовыя прымітыўныя будынкі-паўзямлянкі. Знаёміўся з культурнымі і навучальнымі ўстановамі, а таксама са свабоднымі, жыццярадаснымі людзьмі, міжвольна прыгадваючы былых будаўнікоў рабоў — ахвяр культу Сталіна. Гэта яны пранеслі на сваіх плячах увесь цяжар суровага часу. Гэта яны ўзвялі там заводы-волаты і палацы культуры, вышынныя дамы і спартыўныя збудаванні. Гэта яны праклалі самую паўночную ў свеце чыгунку ў 120 кіламетраў па вечнай мярзлоце.

Вынікам маёй паездкі на Таймыр з'явілася некалькі нарысаў, нізка вершаў і паэма «Таймыр», старонкі з якой прапаную чытачам «ЛіМа». Цалкам паэма будзе апублікавана ў часопісе «Полымя».

АЎТАР.

## Дудзінка — Нарыльск

1

«Тах-тах-тах, тах-тах-тах, тах-тах-тах», —
Чую колаў нязменныя рытмы.
Ва ўнісон гэтым рытмам
у дах
Дождж малоціць
кляўцом маналітным.

Восень сцеле свой жоўты дыван
На ўсю тундру,
парослую мохам.

Я імчуся праз золь і туман
Пад чыесьці і ахі, і охі!..

Я імчуся праз даўні падман,
Праз хлусню,
крывадушнасць
і жахі...
Над сабою самім я тут —
пан,

Той,
што цудам збярогся ад плахі.

Я імчуся па шпалах-касцях
Рукатворцаў самой магістралі,
Праз балючыя раны жыцця,
Што суровымі сведкамі сталі.

Як раней,
тут балоты вакол
І паўночныя карлікі-дрэўцы,
Што спакон адгрымеўшых вякоў
Былі кутам няўрымслівых ненцаў.

Тут ланцуг вачэй тундры —
азёр
Упрыгожыў сабою прасторы.
Ад іх вее святлом,
як ад зор.
І яны штосьць сябрам сваім дораць.

2

Трыццаць пяты.
Быў першы праход —
Намячалася лінія трасы.
Трыццаць сёмы —
пачатак работ
І вяршыня няўмольнага часу.

Параходы адзін за другім
Прывязлі «камсамольцаў» у трумах,
І магутнай ракі берагі

Вядомы рускі савецкі паэт Ігар Шкляpэўскі цесна звязаны з Беларуссю. Ураджэнец Магілёўшчыны застаўся верны родным мясцінам і ў творчасці. Гэта не проста так званыя беларускія матывы. Беларусь прысутнічае ў радках паэта, паміж радкоў, у душэўным складзе ўсёй паэзіі Ігара Шкляpэўскага. Дняпро і Прыпяць з маленства цякуць у сталыя гады паэта. Невыпадкова, што сваю Дзяржаўную прэмію СССР 1987 года Ігар Шкляpэўскі ахвяраваў на пасадку лесу над Прыпяццю, каб узнавіць хоць кузлачок зялёных абсягаў, апаленых Чарнобылем.

Пра пераклады Ігара Шкляpэўскага з беларускай паэзіі можна пісаць цэлае даследаванне. Ігар Шкляpэўскі — намеснік старшыні Савета па беларускай літаратуры пры СП СССР.

25 чэрвеня спаўняецца 50 год з дня нараджэння паэта. Увазе чытачоў прапаную ў сваім перакладзе вершы Ігара Шкляpэўскага.

Рыгор БАРАДУЛІН.

**Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ**



●

Як цягне сцюжай ад зямлі!
Каляны лапнік насцілаю
і зверху мохам ахінаю.
Са стогнам лебедзі прайшлі.
І вось ляжу каля агню
ў пасцелі цёплай і духмянай
пад хмарай Поўначы ўзлаванай
і адчуваю —
ў вышыню
нясе мяне, а доле снамі —
Зямля, аброслая лясамі,
ў гарах — каб дух не выдзімала,
ў марах — каб карыну трымала,
з запасам крыг,
з жывым агнём
сварлівы, цемнаваты дом.

## Матылёк

Пра вечнасць я не ведаю нічога...
А ў сонным лузе б'ецца матылёк!

То праплыве, як сцяг жалобны бога,
то малалецтву казытне руку,
то на маім гусіным паплаўку
перадыхне...

А паплавок ныркнуў!
На сэрцы ў рыбака трывожна стала.

«Тры мушкецёры», вербы і пясок,
і на ўлюбёнай кнізе —
матылёк,
як аксаміт пунсовы кардынала.

Раскрыліць крылы чорны махаон,
і там, далёка,
ў ззянні перламутра
дзетдомаўскі ўздыхне акардыён.

Падстрыжаныя ўсе пад «ноль»,
з вачыма чыстымі, як боль...
Пра вечнасць я не ведаю нічога.

Ды ўгадвае яе мая трывога
ў азяблым матыльку —
на вадароднай бомбе
альбо на пломбе атамнага склепа.
Так многа мне і матыльку не трэба.

Яго вада аднойчы нарадзіла
і ўзважыла паветра ўсе дэталі,
а чарцяжы
загадкава прапалі,
каб не сціхаў жывы арыгінал...

Прайшлі вякі, і абмялелі рэкі,
пялёхне плотка —
круг да берагоў, —
там, дзе хазары з рук змывалі кроў
і на сябе глядзелі печанегі,

А матылёк вякі пералятае
і ўпарта жэніць кветкі і траву —
ад Варкуты і да снягоў Алтая!

# «СЁННЯ СТАНОВІШЧА НЕ ЗМЯНІЛАСЯ...»

## З пленума праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР

«Беларускі кінематограф сёння: праблемы майстэрства і творчай змены» — так вызначалася тэма гаворкі, якую вялі прадстаўнікі кінавытворчасці нашай рэспублікі.

**І. ДАБРАЛЮБАЎ**, сакратар праўлення, абвясціў, што звыклы даклад-справаздача не рыхтаваўся. Няхай і ў парадку правядзення пленума адчуецца перабудова. А яна, паводле І. Дабралюбава, пачалася на кінастудыі з таго, што яе супрацоўнікі пачалі... браць ліцэнзіі «на адстрэл» сваіх калегаў. Прага пакрытыкаваць захапіла ўсе працоўныя звенні калектыву — знізу даверху і наадварот. Але іншых кінематаграфістаў, іншых работнікаў, як тыя, што ёсць, у рэспубліцы, вядома, не з'явіцца для ажыццяўлення перабудовы. Таму трэба клапаціцца і рупіцца пра тых, хто працуе сёння. Крытыка — друкаваная, з трыбун і з «таварыскіх» вуснаў — часцяком даводзіць людзей да хваробы, бо, не маючы дакладных выпрацаваных крытэрыяў, паасобныя крытыкі знішчаюць усё запар. Прамоўца падаў за прыклад неаб'ектыўнасці і нядобразычлівасці артыкулы з нагоды вынікаў XVI рэспубліканскага агляду-конкурсу ў газеце «Советская Белоруссия» і адваротны выпадак — публікацыю А. Сільвановіча ў «ЛіМе». Варта было маладому чалавеку інтэлігентна пакрытыкаваць кнігу доктара навук В. Нячай, як ён быў выключаны са складу секцыі крытыкі СК. І. Дабралюбаў прапанаваў склікаць пленум СК па стане і задачах крытыкі і штогод ладзіць агляд-конкурс работ крытыкаў; самую пільную ўвагу надаць адносінам з аддзелам крытыкі АН БССР. Далей прамоўца коратка пазнаёміў прысутных са станам навучання ў вочна-завочнай школе маладых крытыкаў пры СК і справамі аб'яднання «Дэбют», але пры гэтым заўважыў, што інструкцыі кінавытворчасці, прынятыя ў 1933 годзе (!), да гэтага часу замінаюць справе.

**Ю. ЦВЯТКОЎ**, рэжысёр, сказаў, што «Беларусьфільм» вельмі ўмоўна можна назваць беларускай кінастудыяй. Няўвага і непавага да беларускай гісторыі доўгі час з'яўлялася дапербудовачнай заганай кінастудыі; сёння становішча не змянілася. Абыякавасць да гісторыі «справакавала» непавагу да народа, да ягонай культуры і мастацтва. Гэтае становішча трэба выпраўляць неадкладна. А на «Беларусьфільме» няма нават каардынацыі мастацкіх праграм створаных творчых студый, няма і ўзгаднення з планамі іншых кінастудый краіны, таму планы «Беларусьфільма», здараецца, дубліруюць тое, што збіраюцца здымаць у Ленінградзе ці ў Казахстане. Але кожны адметны і варты гістарычны сцэнарый літаральна праломваецца праз рэдактарскія ўмацаванні. Што да праблемы так званай свабоды творчасці, працягваў Ю. Цвяткоў, дык на «Беларусьфільме» хутка навучыліся разумець яе як бескантрольнасць і вызваленасць ад сцэнарыя, ад мастацкага савета, ад рэдактуры.

Адна з самых набалелых праблем «Беларусьфільма», адзначыў далей прамоўца, эканамічная несамастойнасць кожнай студыі. Няхай пакуль не гасразлік, а самафінансаванне, але пакуль і яго няма: усе студыі бяруць з адзінага беларусьфільмаўскага катла і аддаюць заробленае туды ж. У выніку творчая праца эканамічна не стымулюецца.

**А. БЕЛАВУСАЎ**, мастак і рэжысёр-мультыплікатар, зазначыў, што сёння на «Беларусьфільме» самая балючая праблема — гэта праблема творчай свабоды мастака, яго ўнутранай разняволенасці, а яе заўсёды вызначае шэраг знешніх свабод-умоў. Ідэя вольных студый, якую прыняў і падтрымаў з'езд СК БССР, да гэтага часу бесперапынна рэвізуецца, незалежных студый зараз на «Беларусьфільме» няма, бо ніводная з іх не мае эканамічнай самастойнасці. Другая балючая праблема: адкуль на галовы студыйцаў бярэцца новае, «пасляперабудовачнае» кіраўніцтва? Хто такія Мураўскі, Шышкін, Багдановіч і па якім праве яны кіруюць творчасцю? На думку прамоўцы, больш за ўсё замінае плённай рабоце студыі не інструкцыя 1933 года, а псіхалогія 1937 года.

**А. КРАСІНСКІ**, мастацтвазнаўца, прыгадаў тэму пленума СП БССР «Гісторыя народа і літаратура». Ці можа сёння вызначыцца тэма «Гісторыя народа і кінематограф»? На жаль, не. На развіццё кінематографа ў рэспубліцы ніколі не глядзелі стратэгічна, ім проста кіравалі. А варта ўжо цяпер займець план, да якіх старонак нашай беларускай гісторыі трэба звярнуцца кінамастацтву ў першую чаргу. Для гэтага А. Красінскі прапанаваў неадкладна стварыць камісію, якая б выпрацавала абгрунтаваныя рэкамендацыі па стварэнні фільмаў гістарычнай тэматыкі. Далей выступаючы зрабіў экскурс у гісторыю беларускага кіно, згадаўшы знакамітых рэжысёраў, якія пачыналі на «Беларусьфільме». Ён самакрытычна зазначыў, што з Корш-Сабліна крытыкамі і кіназнаўцамі рэспублікі быў створаны вобраз добрага каляднага дзядулі, які быццам як з меха вымаў цудоўныя фільмы і дарыў іх народу, а таксама не шкадаваў

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

# Прычына для роздуму?

## «БАЛЬ-МАСКАРАД» у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР

ГАВОРАЧЫ пра оперу, мы ўсведамляем сябе спадчыннікамі залатога фонду мастацтва. У лепшых творах Моцарта, Расіні, Вердзі, Вагнера, Глінкі, Чайкоўскага, Мусаргскага засяроджаны глыбокі эмацыянальны свет герояў. Яны пакутуюць і перамагаюць, кахаюць і гінуць... Гэты свет здатны ўзрушыць, прымушае суперажываць, думаць, заклікае да самаўдасканалення, пераўтварэння жыцця...

Пішу гэтыя радкі, ды спакваля ўзнікае другая думка, якая выцясняе захоплены і аптымістычны тон.

Так, мы — захавальнікі залатога фонду оперы. Але хто ж гэта — «мы»: музыканты-прафесіяналы, проста аматары жанру? Колькі нас? Бо шматтысячныя маладзёжныя аўдыторыі (чый дэвіз — хлёсткае слова «рок») хістаюцца ў такт зусім іншым рытмам, гучанням і словам. Захавальнікамі якога фонду будуць яны? Складанае пытанне... А пакуль мы шукаем і не знаходзім адказу, — амаль пустуюць залы, дзе ажыццяўляецца цуд далучэння да вялікіх твораў мастацтва, якія ўтойваюць вечнае хараство. Тых жа, хто разумее непаўторнасць класічнай спадчыны, у тым ліку і опернай, куды менш, чым абыякавых да яе. Што рабіць, як звярнуць маладых да веры ў вялікае мастацтва? Магчыма, само мастацтва ўнутранай энергіяй здатнае прывабіць на свой бок яркімі прэм'ерамі і перамагчы ў барацьбе са шматлікімі сурагатамі?

Звернемся да нядаўняй прэм'еры і паспрабуем атрымаць адказ...

Інтрыгуючая назва оперы «Баль-маскарад» вялікага Джузепе Вердзі не падманіць чаканняў гледача. Лібрэта прапаноўвае багацце рамантычных падзей, складанае перапляценне ўзаемаадносін: тайнае каханне графа Рычарда да жонкі свайго сябра і сакратара Рэната, невыносная страсць да Рычарда і жаданне ад яе вызваліцца самой Амеліі, што прывяло прыгажуню па параду і зёлкі да вядзьмаркі Ульрыкі. Фантастычная карціна магіі і прадказанні вядзьмаркі могуць ускалыхнуць уяўленне самага флегматычнага і незацікаўленага чалавека. Калейдаскоп дзейных асоб і падзей амаль кінематаграфічна змяняюць у сюжэце адно аднаго: сцэна начных могілак з пошукамі Амеліяй чароўнай кветкі, якая знішчае каханне, нечаканая сустрэча з каханым, пагроза быць хоць і бязвінна, але злоўленай мужам і ў той жа час — змоўнікамі, якія замахваюцца на жыццё графа; вялікадушнасць Рэната, гатовага прыняць удар на сябе і раз'юшанага ўяўнай нявернасцю жонкі. Тут і сцэна падрыхтоўкі да забойства графа, і грандыёзны баль-маскарад, і, нарэшце, трагічная развязка — забойства. Амаль дэтэктыўная канва лібрэта кампенсуе каструбаватасць асобных пластоў дзеяння. Але апраўданне гэтай каструбаватасці — у гісторыі напісання оперы: у яе лібрэта прачытваўся пэўны палітычны падтэкст і непажаданыя асацыяцыі, давялося перарабіць оперу згодна з патрабаваннямі цэнзуры, што неспрыяльна паўплывала на цэласнасць некаторых оперных ліній. Але нягледзячы ні на што, опера з'явілася і прайшла з велізарным поспехам.



І вось, праз стагоддзе, — яе прэм'ера на беларускай сцэне (музычны кіраўнік і дырыжор М. Калядка, рэжысёр-пастаноўшчык С. Штэйн, мастакі У. Окунеў, І. Прэс).

Прыгадваю, як характарызаваў Б. Асаф'еў творы Д. Вердзі: «...Каштоўныя якасці свайго опернага стылю — валоданне масавым ансамблем, накіраванасцю музыкі на авалоданне слухачамі праз шчыльныя і паўнагучныя, шырока раскінутыя і выразна рытмаваныя мелодыі». Прыгадваю першае ўражанне ад оперы «Баль-маскарад»: як пажадалі стваральнікі спектакля, перад намі багатае, пышнае дзеянне, пастаўленае маляўніча і... традыцыйна. Прыгадваю, нарэшце, развагі М. Тараканава наконт лёсу опернага жанру: «...Любая з'ява, да якой прыкладальнае паняцце традыцыі, непазбежна ў самой сабе заключае патэнцыі да абнаўлення, іначай гэта і не традыцыя зусім, а штосьці музейна-нерухомае, косна-непаваротлівае. Сапраўдная ж традыцыя заўсёды зменлівая, яе жывы рух адкрывае нам раней не спазнаныя грані, а тое, што захавалася ад ранейшага, асэнсавана ў ёй з пазіцый сучаснасці...»

На жаль, сёлетняя прэм'ера оперы «Баль-маскарад» не сталася «жывым рухам», які адкрывае раней неспазнаныя грані, якога чакаў і чакае слухач. Спектакль не толькі не ўспрымаецца як адкрыццё, але ў яго традыцыйна «прачытаным» дзеянні можна заўважыць сур'ёзныя пралікі.

Вядома, што Вердзі заўсёды і, відаць, перш за ўсё ўлічваў значэнне спевака ў оперы. Ён з вялікай увагай ставіўся да складу выканаўцаў, тыпу іх галасоў, характару талентаў, ясна ўяўляў сабе нават знешняе аблічча і міміку герояў. Ён глыбока перажываў, калі склад акцёраў-спевакоў не адпавядаў яго задуме. У адным з лістоў Вердзі пісаў пра ў цэлым паспяховы спектакль «Баль-маскарад»: «Спектакль часткова добры, часткова кепскі... — кампазітар незадаволены дзвюма выканальніцамі вядучых жаночых партый: «Ах, ты сабака, антрэпрэнёр! Які мог бы быць поспех, калі б быў добры ансамбль!»

А што ж у нас? Са шкадаваннем зазначаю, што перад намі музычнае дзеянне, дзе дзіўным чынам, у залежнасці ад складу выканаўцаў, неапраўдана змяняюцца сюжэтныя акцэнты і нават сутнасць зместу оперы. Прычым, справа тут не ў індывідуальнасці выканаўчых характараў.

Так, з галерэі яркіх сцэнічных вобразаў оперы ў мінскай пастаноўцы знікла выпукласць, значнасць партыі Амеліі (Л. Крывёнак). У сцэне чараўніцтва яна «прайграе» вядзьмарцы Ульрыцы (Н. Галеева, Н. Руднева), блякне ў дуэце з Рычардам (Э. Пелагейчанка), не выклікае пачуцця спачування ў сцэне-пакаянні з Рэната (Ю. Бастрыкаў) і г. д. Сціплыя вакальныя дадзеныя і сцэнічная скаванасць спявачкі пераўтвараюць неардынарную натуру Амеліі (першую прыгажуню графства, ахопленую нечаканым каханнем, здольную змагацца з неспадзяванай страсцю, шукаць вызвалення ад згубнага пачуцця ў апальнай вядзьмаркі) у мяккую, пакорлівую і безаблічную гераіню, якая ў крытычных драматычных сітуацыях, ледзь не страчваючы прытомнасць ад страху, аднастайна хіліцца долу.

Вобраз Амеліі, увасоблены І. Шыкуновай, сцэнічна больш жывы, але адсутнасць разнастайнай тэмбральнай афарбоўкі голасу спявачкі, які не прабіваецца праз тканіну аркестра, пакідае партыю незавершанай.

У гэтай ролі публіка чакала паказу работы М. Гулегінай, якая выконвала партыю Амеліі ў Італіі ў тэатры Ла Скала. На жаль, сустрэча не адбылася, але хочацца думаць — адбудзецца. Калі разабрацца, пажаданне артысткі спяваць на італьянскай мове (што сталася прычынай непаразумеласці з калектывам) не будзе заганай для пастаноўкі, тым больш, што, за малым выключэннем, тэксту ў спектаклі не зразумець. (Выключэнне — некаторыя салісты, прынамсі, Э. Пелагейчанка і А. Саўчанка, з прафесійнай выразнай спявацкай дыкцыяй).

У вобразе Рычарда, на які ўскладзена значная сэнсавая і эмацыянальная нагрузка оперы, створаным Э. Пелагейчанкам, на мой погляд, з прафесіяналізмам і сцэнічнай упэўненасцю, знойдзена вакальная інтанацыя ролі, ніць драматургічна асэнсаванага спявання. Гэта садзейнічае імкненню артыста спасцігнуць вердзіеўскага героя: і ў экспазіцыі І дзеяння, дзе Рычард адважны, бяспечны, закаханы, усясільны, і ў сцэне ўсхваляванай і ўзвышанай сустрэчы з Амеліяй на могілках. Рычарду ў выкананні У. Экнадзіёсава яшчэ варта папрацаваць над выразнай вакалізацыяй не толькі ў сярэднім, але і ў нізкім і высокім рэгістрах, а таксама над інтанацыйнай чысцінёй выканання.

Парадавала праца А. Саўчанкі. Яго Рэната — значны ў сваёй высакароднасці, значны і ў сляпой помсце. Голас спевака гучыць па-вердзіеўску свабодна і магутна. Калі на сцэне такі Рэната, робіцца зразумела, дзеля каго ідуць на ахвяры і Амелія, і Рычард. Досыць гожы і Рэната—Бастрыкаў, але ж саступае ў сіле абаяльнасці Рэната—Саўчанку.

Партыю Оскара Вердзі лічыў сваёй бясспрэчнай удачай. Работа Г. Лукомскай над гэтым вобразам — удача пастаноўкі: філіграннасць вакальнага майстэрства, асэнсаванасць і свабода сцэнічных дзеянняў артысткі, разнастайная тэмбральная палітра голасу ствараюць партрэт гарэзлівы, бліскучы. Грацыёзны вальс-песенька «Боясь огласки, мы носим маски...» у разгар маскараду — адзін з лепшых эпізодаў оперы. Салістка Т. Глаголева ў гэтую ж ролю ўносіць нюанс юнацтва, свежасці. Але часам ёй, уладальніцы прыгожага моцнага голасу, яркіх знешніх дадзеных, бракуе адточанасці і ў вакале, і ў сцэнічным выкананні.

Вобраз вядзьмаркі Ульрыкі

## ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ



# З ВЁСКІ СПЕЎНАЙ ПРЫСЫНАК

*Самадзейнаму кампазітару, заслужанаму дзеячу культуры БССР Паўлу ШЫДЛОЎСКАМУ—80*

«Хадзілі па зямлі некалі тры старцы, — згадваецца расказаная Паўлам Іванавічам легенда,—з краю ў край абышлі ледзь не ўвесь свет, усё шукалі, дзе знайсці б на старасць прытулак, прыпыніцца. Доўга ці не, але прыйшлі і да нас на Уздзеншчыну. Прыселі на камень ля Нёманца, дзе з адной крынічкі бяруць пачатак Нёман і Лоша, прыслухаліся.

— Трава спявае, — сказаў адзін.

— Гэта крыніца пяе, — запярэчыў другі.

Спрачацца пачалі, ледзь да бойкі не дайшло. І тады самы стары і сівы, які маўчаў, прылажыў вуха да зямлі. Доўга слухаў. Пасля падняўся.

— До спрачацца, — сказаў, —ніхто з вас не ўгадаў. Тут зямля такая. Гэта яе спеўны голас чуваць».

Я часта ўспамінаю гэтую легенду. Ці ж невыпадкова з невялічага куточка гэтулькі пісьменнікаў. З Вялікай Вусы —Глебка, з Дуброўкі — Бялевіч, з Чурылава—Якімовіч, з Нізка — Крапіва, Трус, Арабей. І зусім побач з Нізком, праз лес — Пясочнае — радзіма Астрэйкі і Русака.

Непадалёку ад Нізка прытулілася ціхая, прыгожая вёска Прысынак. Жыве ў ёй самадзейны кампазітар, паэт, чалавек незвычайнага лёсу — Павел Іванавіч Шыдлоўскі. Ён пасвіў кароў і спяваў на выязных канцэртах з Паўлюком Трусам, кожны раз пры нашай сустрэчы яму перадае прывітанне Кандрат Крапіва. Яго вельмі любіў, часта наведваў Генадзь Іванавіч Цітовіч, які ў невялічкай лазні Шыдлоўскага напісаў сваю кнігу аб народнай песні. У свой час у госці да Паўла Іванавіча Шыдлоўскага прыязджаў Кірыла Трафімавіч Мазураў, былі міністры, паэты, кампазітары...

За некалькі дзён да сваёй смерці прыязджаў у Прысынак Цітовіч. Прыязджаў няйначай развітацца. Гаварылі мала, больш спявалі.

— Нічога, Паўлючок, — сказаў, — пакуль мы жывём — будзе народная песня жыць.

І вось няма Генадзя Іванавіча, не прыедзе. Ды і яму, Паўлу Іванавічу, восемдзесят вёсен. Не заўважыў, як праляцелі. Хапіла і гора, і радасці...

...Угрызаецца ў бервяно падатлівая сякера, роўна па шнуры, адбіваючы трэскі, і раптам, як спатыкнулася на суку, падскочыла, і ў адзінае вока (другое страціў у дзяцінстве) ударыла шчэпка. Ён абхапіў рукамі галаву, пасунуўся дахаты. Нема загаласіла маці. Бацька запрог каня і павёз сына ў Мінск. Начаваў пад возам трое сутак, пакуль трапіў да прафесара Камінскага. Аперацыю рабілі 97-гадовы прафесар і маладая ўрач Таццяна Бірыч. Удалося захаваць мізэрны працэнт зроку. «Ніякай фізічнай працы, — канстатаваў прафесар, — нельга есці тлустага, смажанага, салёнага, горкага...»

Павел не слухаў. Што яму горкае і салёнае, калі ён будзе адрозніваць дзень ад ночы. Вось здзівіўся б самавіты эскулап, каб даведаўся, што і ў восемдзесят гадоў Шыдлоўскі можа панесці пяціпудовы мех бульбы, косіць, рэжа дровы...

Пасля бальніцы ён натыкаўся ў хаце на рэчы, шукаў навобмацак адзенне. І толькі на вуліцы было лягчэй. У сонечны дзень не збіваўся з пратаптаных сцяжын, нават у лес хадзіў. Бацькі ўжо не хвалявалiся, што сын заблудзіцца. Хвалявала іншае: сын з лесу вяртаўся пахмуры, нешта мармытаў пад нос, спяваў. Першай разгадала сакрэты брата Жэня: Павел складае вершы.

У калгасным клубе ішлі рэпетыцыі. Хлопцы і дзяўчаты развучвалі новыя песні, дэкламавалі вершы сваіх землякоў Кандрата Крапівы і Паўлюка Труса. І неяк Жэня падгаварыла Паўла пайсці на рэпетыцыю. Наўрад ці пагадзіўся б ён, але Жэня сказала, што баіцца адна.

Тая памятная рэпетыцыя ішла поўным ходам. Спявалі наймодную тады песню на словы Паўлюка Труса і Пятра Глебкі пра лёс дзяўчыны-сіраты. Цяжка і горка жылося ёй, пакуль не паступіла ў Белпедтэхнікум, знайшла сваё каханне. Павел ведаў гэтую песню, больш таго, ён выконваў яе на сцэне дуэтам з Паўлюком Трусам. Выязджалі тады ў вёску Кухцічы. Тройчы выклікалі на «біс». Трасучы рыжай чупрынай, Паўлюк, дваццацігадовы, знакаміты на ўсю рэспубліку паэт, ціснуў яму, падлетку, руку і гаварыў: «А ты малайчына, тэнар!» А па дарозе дамоў спытаў: «Вершы па-ранейшаму пішаш?» Павел прызнаўся, што не піша, шмат работы па гаспадарцы. «Знаходзь час хоць прыхваткамі,— параіў Трус, — я веру, у цябе атрымаецца».

Дзяўчаты псавалі добрую песню. Занадта весела спявалі пра гора, неспагадны лёс сіраты. Не вытрымаў Павел. «Стоп! Не так!» — закрычаў. Схамянуўся: хто прасіў высоўвацца? «А ты пакажы, як трэба спяваць, калі такі разумны», — пакрыўдзіліся артысткі.

Ён устаў, кашлянуў, ступіў крок наперад, неспадзеўку, як бы дрыжачым голасам, заспяваў:

**Сонца выплыве**
**за крыніцаю,**
**Завіецца на травах туман,**
**Долу хіляцца лозы ніцыя,**
**Зажынаю палоску адна.**

Павел спяваў наўздзіў проста, перадаючы і смутак, і радасць дзяўчыны.

«Дык ты артыст! — сказаў Юзік Прыбытка. — Кіруй намі, браце!»

Так Павел Іванавіч Шыдлоўскі стаў кіраўніком мастацкай самадзейнасці, а пасля і загадчыкам клуба калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Ён пачаў пісаць свае песні. Праўда, не прызнаваўся нікому. Песню аб маладой калгаснай брыгадзе падхапілі ў раёне, Генадзь Іванавіч Цітовіч запісаў яе... у Заходняй Беларусі. «Для сапраўднага мастацтва няма межаў, — напіша ён пазней, — няма калючых дратоў...»

Калі Шыдлоўскі прызнаўся Олі Шавель, што сам напісаў «Брыгаду маладую», тая не паверыла.

— Ты яшчэ пашкадуеш, — усміхнуўся Павел, — думаў, калі такая спеўная, то замуж вазьму...

— А можа, усё-такі возьмеш?—засмяялася Оля.

— Ты ж ведаеш, як я бачу, —ужо сур'ёзна сказаў ён, — каму такі муж трэба.

— У мяне вочы, як у рысі, на дваіх хопіць, — абняла яго Вольга.

Пажаніліся. На вяселлі шмат спявалі. Аб брыгадзе маладой таксама. Цяпер жонка на ўсё жыццё стане яму першай памочніцай. Будуць разам спяваць, рэпеціраваць, ездзіць на конкурсы. А ў вайну Вольга і Павел хавалі ў сябе раненых байцоў. Да Шыдлоўскіх партызаны заходзілі ў любы час ночы. Чуйнае вуха Паўла Іванавіча лавіла нават самы ціхі стук у шыбу. Жонка мыла партызанам бінты, пякла хлеб, сам гаспадар стаў сувязным, пры яго дапамозе ўдалося спаліць мост праз Уздзянку, ля вёскі Бярвішчы. Шыдлоўскага выдаў правакатар. Партызаны паспелі забраць Паўла Іванавіча з сям'ёй у атрад. Там яго ўзнагародзілі медалём «За адвагу».

У 55-м годзе быў аб'яўлены конкурс на лепшую песню пра Маскву. Вырашыў уключыцца ў той конкурс і Павел Іванавіч. Мелодыя ўзнікла адразу. З'явіліся і словы. Яны добра клаліся на музыку.

**Калоссямі нівы шумяць**
**залатыя,**
**І рэкі гамоняць між лоз,—**
**Прымі прывітанне, Масква**
**дарагая,**
**Што я з Беларусі прывёз.**

Песняй «Прывітальная Маскве» адкрывалася дэкада беларускага мастацтва ў сталіцы. Яе выконваў хор з пяцісот(!) чалавек. Генадзь Іванавіч Цітовіч паставіў яе ў праграме побач з «Лясной песняй» Адама Русака.

Шыдлоўскі разумеў, што Цітовіч занадта высока ацаніў яго песню, тым не менш быў вельмі рады. Новыя і новыя песні складаў Шыдлоўскі. Сярод іх «Пасаджу каліну ў полі», якую і сёння часта выконвае па радыё Ганна Радзько. «Летняя ночка вельмі маленькая», «Цячэ Нёман па пясочку» і шмат іншых. Былі сярод іх і аднадзёнкі—песні пра кукурузу («На палёх Савецкага Саюза Вырастае ўсюды кукуруза!»), кок-сагыз. Песні гэтыя яму заказвалі...

— На старасць як здзяцінеў, — усміхаецца Павел Іванавіч, — пішу пра каханне. Хочаш—праспяваю?

**Летняя ночка вельмі**
**маленькая,**
**Вецер цярушыць срэбра-**
**расу,**
**У садзе пад вішнямі пары**
**прыцішаны,**
**Хочуць прыбавіць ночку-**
**красу.**

Гэта песня надзіва ўпрыгожыла дакументальны фільм «Песня пшанічнага поля», які ўжо некалькі гадоў запар паказваецца па тэлебачанню. Адразу, як ён выйшаў, Шыдлоўскаму пасыпаліся пісьмы з Мінска, Віцебска, Гродна... Свярдлоўска.

У Паўла Іванавіча чатыры сыны і дачка. Усе выдатна спяваюць. Падпалкоўнік Вышэйшай школы міліцыі Генадзь Паўлавіч іграе на баяне, Міша — выкладчык Уздзенскай музычнай школы, піша песні. Сам Павел Іванавіч нясе свае гады лёгка. Напісаў нядаўна сцэнарый «Вячорак», шмат у яго творчых задум. Пажадаем, каб яны збыліся.

**Васіль ШЫРКО.**

---

З ВЯЛІКІМ хваляваннем і болем прачытаў я ў вашай газеце за 3 чэрвеня артыкул «Курапаты — дарога смерці». Хочацца выказаць аўтарам і рэдакцыі глыбокую ўдзячнасць за сумленную, высакародную работу па аднаўленні справядлівасці і праўды пра адзін з самых цяжкіх перыядаў нашага жыцця.

Раскажу пра сябе, пра нашу сям'ю, пра тое, як хваля масавых рэпрэсій пракацілася па вёсцы Сілівонаўцы Жлобінскага раёна, у якой я нарадзіўся і вырас. Толькі за адну вераснёўскую ноч 1937 года ў нас было схоплена 19 «ворагаў народа». Што гэта былі за «ворагі»? Пераважна непісьменныя сяляне-працаўнікі. Што яны «замышлялі» супраць Савецкай улады, невядома і дагэтуль. Той ноччу быў арыштаваны і мой бацька — Рымараў Асон Восіпавіч. Вось яго кароткая біяграфія. У маленстве застаўся без бацькі, з малых гадоў парабкаваў. З чатырнаццаці гадоў ездзіў разам з братам Хведарам на лесараспрацоўкі, каб зарабіць грошай і купіць зямлі. Нават пасля таго, як ажаніўся, бацька 11 гадоў жыў з сям'ёй разам са сваімі братамі (у кожнага было па 4—5 дзяцей). У 1919 годзе яго выбіраюць старшынёй камбеда. У 1922 годзе бацьку выдзяляюць хутар. Дзякуючы вялікай працавітасці ўсёй сям'і і эканоміі ва ўсім (ніхто не курыў, не піў, вопратку насілі саматканую, абуваліся ў лапці) гаспадарка наша к 1930 году адносілася ўжо да серадняцкіх. У тым жа трыццатым годзе бацька ўступіў у калгас і працаваў там з уласцівымі яму энергіяй і стараннасцю. Аднак жа і гэта яго не ўратавала.

Характэрна, што для знарочыстага расслаення сялян, нацкоўвання адных супраць другіх, распальвання варожасці і падазронасці між імі яшчэ нядаўняя досыць аднародная сялянская маса была разбіта на катэгорыі — кулакоў, падкулачнікаў, кулацкіх падпявалаў, зажытачных сераднякоў, маламоцных сераднякоў, цвёрдазаданнікаў, беднякоў, пралетарыяў і г. д. Аднесці да любой з гэтых расплывістых катэгорый можна было любую сям'ю ў залежнасці ад таго, як складваліся яе адносіны з актывам, з мясцовай уладай, з суседам-зайздроснікам.

Апісаць усе нягоды, якія зведала сям'я «ворага народа» (мама, шасцёра нас, братоў, і сястра), проста немагчыма. Гэта такая трагедыя, такі журботны раман, які яшчэ ніхто не напісаў, але які напісаць неабходна. Паклёп, галеча, цкаванні, страх, зневажанні, прыніжэнні былі штодзённымі нашымі спадарожнікамі. І ўсё гэта пры ўсведамленні сваёй невінаватасці, страшэннай несправядлівасці. Кожны з нас ведаў, што ні бацька, ні мы нічога благога людзям і роднай Савецкай уладзе не толькі не зрабілі, але і ў думках не мелі. Кожны з нас і клаўся і ўставаў штодня з думкай: «За што? За што? За што?»

Вялікі працаўнік бацька, які мог бы пракарміць не адзін дзесятак чалавек, паміраў у студзені 1942 года ў валагодскіх лясах ад голаду і холаду, у пакутлівай трывозе за лёс сям'і. Дачасна ўміралі мае браты, не ўсе мы дажылі да 1965 года, калі бацька быў пасмяротна рэабілітаваны.

Сёння, праз столькі гадоў, я не магу ўспомніць імёны ўсіх сваіх аднавяскоўцаў, схопленых у трыццатых «чорным воранам». Але калі рэдакцыя праявіць зацікаўленасць да лёсу гэтай сталінскай Хатыні, я паеду ў родную Сілівонаўку і ўсё ўзнаўлю ў памяці. Трэба пра ўсё гэта памятаць. Прыгадваюцца словы, здаецца, М. Горкага: «И невинно убиенных сила правды воскресит!» У месцах расстрэлу павінны стаяць

---

ТЭЛЕБАЧАННЕ

# ДЫХАЙЦЕ ЭКАНОМНА...

**На Беларускім тэлебачанні завяршаецца работа над спектаклем паводле п'есы А. Макаёнка «Дыхайце эканомна». Інтэрв'ю нашаму карэспандэнту даў рэжысёр-пастаноўшчык, галоўны рэжысёр Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм БТ Валерый МАЦЮШЭЎСКІ.**

— П'еса Андрэя Макаёнка «Дыхайце эканомна», апошняя ў творчасці драматурга, — практычна невядома нашаму гледачу...

**— Наколькі мне вядома, дагэтуль п'еса ставілася толькі аднойчы — у Брэсце. Акрамя таго, яшчэ пры жыцці драматурга, пачыналася работа ў Рускім тэатры БССР, але па розных прычынах работа гэта засталася незавершанай. Магчыма, справа тут у асаблівасцях твора. Яго жанр — спалучэнне сатыры з сацыяльнай фантастыкай — не самы папулярны на нашай сцэне. Апрача таго, п'еса на першы погляд можа падацца досыць схематычнай.**

— Фабула п'есы «Дыхайце эканомна» даволі цікавая. Купка «эліты», якая дбае толькі пра свае карыслівыя інтарэсы, хаваецца ў бункеры, спадзеючыся перачакаць ядзерную катастрофу. Час у гэтым бункеры пачынае цячы назад. Персанажы п'есы—Цэзар, Людовік, Адольф, Хіра Сіта і іншыя, кожны з якіх сімвалізуе не проста сацыяльны тып, але цэлую грамадска-палітычную фармацыю — пачынаюць адчайную барацьбу за ўладу. У выніку «высокае панства» дэградуе да прымітыўнага... людажэрства.

Справа заключаецца, аднак, ў тым, каб напоўніць драматургію твора актуальна значным, канкрэтна-грамадскім гучаннем, зацікавіць сённяшняга тэлегледача...

**— Сапраўды, каб зрабіць п'есу больш дынамічнай і выразнай, у працэсе работы давялося адмовіцца ад некаторых сцэн, пераасэнсаваць ролю асобных персанажаў, а фінал, да прыкладу, перапрацаваць цалкам.**

**Галоўнае, што мяне прыцягнула ў п'есе — гэта магчымасць сказаць аб вельмі важных, агульначалавечых рэчах. Нам неабходна знайсці адказ на пытанне: чаму чалавецтва аказалася на краі бездані? Адзін з магчымых адказаў на гэтае пытанне, як мне здаецца, у тым, што людзі не ўмеюць, не жадаюць выслухаць адзін аднаго. Самая глыбокая мяжа пралягае часам паміж самімі людзьмі.**

**Каб не загінуць, людзі павінны спыніцца і задумацца: хто мы ёсць? А гэта немагчыма без асэнсавання трагедый мінулага.**

— З якімі праблемамі давялося сутыкнуцца вам як рэжысёру?

**— У п'есе аўтарам не ставілася задача стварыць ярка акрэсленыя псіхалагічныя вобразы. І гэта, зразумела, выклікала пэўныя цяжкасці. Але пад час работы ў нас стварыўся, як мне здаецца, калектыў аднадумцаў. Усе працавалі з сапраўдным натхненнем. Творчай атмасферы ў рабоце вельмі спрыялі афармленне мастака Г. Хмыза, аператарская работа У. Лявіцкага.**

**Цяпер пачынаецца вельмі напружаны і адказны перыяд—мантажны. Работы наперадзе яшчэ шмат...**



У час рэпетыцыі.
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

# Пошта артыкула «Курапаты—дарога смерці»

# «СІЛА ПРАЎДЫ ВЯРТАЕ НАМ ПАМЯЦЬ...»

**Публікацыя З. Пазняка і Я. Шмыгалёва з прадмовай народнага пісьменніка Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі Васіля Быкава («ЛіМ» ад 3 чэрвеня г. г.) выклікала вельмі актыўную рэакцыю чытачоў — як нашых даўніх падпісчыкаў і аўтараў, так і незнаёмых нам да гэтага людзей. Ідуць пісьмы, ідуць водгукі і тэлефонныя званкі... І яшчэ даходзяць... розныя чуткі. Апошнія пераважна ў сувязі з паведамленнем аб тым, што створана ўрадавая камісія для расследавання фактаў, выкладзеных у артыкуле. Чым выклікана стварэнне камісіі? як яна будзе працаваць? якія ў яе адрас і тэлефон? — гэтыя і падобныя пытанні задаюць нам. На жаль, рэдакцыя не можа даваць на іх поўны адказ, бо не мае неабходнай інфармацыі.**

**Некалькі слоў адносна пошты. Частку пісьмаў мы змяшчаем, яны гавораць самі за сябе, у асаблівым каментарыі не маюць патрэбы. Трэба толькі, бадай, дадаць, што ў іх горача падтрымліваецца курс партыі і ўсёй перадавой грамадскасці на выкрыццё злачынстваў Сталіна і яго апрычнікаў, на рэабілітацыю і ўшанаванне памяці ахвяр культу, на поўнае ачышчэнне ад ганебнай спадчыны сталінізму. Што датычыць іншай інфармацыі, якая паступае ў рэдакцыю (тэлефонных званкоў, вусных заяў), то тут характэрна наступнае. Нехта называе і іншыя месцы расстрэлу нявінна асуджаных, нехта называе прозвішча аднаго з тых, хто ўдзельнічаў у карных акцыях, але робяць гэта з апасеннем, просяць не называць іх прозвішчы. Інакш кажучы, груз мінулага яшчэ вісіць над намі, ціснe на нашу псіхіку. Другія, падтрымліваючы выступленне З. Пазняка і Я.Шмыгалёва, падзяляючы словы В. Быкава, у той жа час даюцца дзіву: «Няўжо гэта праўда? Няўжо сапраўды так было? Няўжо магло так быць? А калі магло, калі было, то — яшчэ адна разнавіднасць рэакцыі — ці не занадта адкрыта, ці не занадта канкрэтна, ці не занадта востра ставіцца пытанне?...» Што можна сказаць у адказ на гэтае здзіўленне, на гэтую не зусім адэкватную сітуацыі рэакцыю? Хіба, што яшчэ раз напомніць сумна вядомы ўжо сёння ўсёй краіне факт, што ахвярамі яжоўска-берыеўскіх рэпрэсій, судовых фальсіфікацый сталі мільёны людзей, што ў сталінскім «паляванні на ведзьмаў» дзейнічаў звыштэрміновы, несудовы разгляд спраў з прымяненнем вышэйшай меры, што па прычыне вялікай колькасці спраў «судзілі» і расстрэльвалі па спісках... Куды мы дзенем гэты факт? Куды самі дзенемся ад яго? Схаваемся за няпраўду ці паўпраўду, за агульныя разважанні аб неабходнасці ачышчацца? Вядома, усім нам было б спакайней, каб не гэтыя, не столькі «белыя», колькі «чырвоныя», г. зн. крывавыя, плямы, каб мы не ведалі месцаў расстрэлу, не ведалі, колькі было расстраляна, не ведалі, хто і як расстрэльваў... Так, без гэтага ўсяго было б спакайней, камфортней. Але ці ачысцімся ж тады мы самі, ці ажыццявім на справе аздараўленне нашага грамадства, калі будзем баяцца «шокавай тэрапіі», сеансы якой мы апошнім часам атрымліваем са старонак друку? Не, не ажыццявім, а, значыць, і не здзейснім у дачыненні да ахвяр культаўскіх рэпрэсій, як сказана ў Тэзісах ЦК КПСС, «наш партыйны і грамадзянскі абавязак».**

помнікі ахвярам сталінскага тэрору. Я чалавек не багаты, але пэўную суму грошай на такі помнік не пашкадую.

**М. РЫМАРАЎ,**
**пенсіянер, ветэран працы.**
г. Бабруйск.

**АПОШНІМ часам сродкі масавай інфармацыі публікуюць нямала матэрыялаў па гісторыі трыццатых гадоў. Жудасных трыццатых. Да мяне гэтая праўда прыйшла нечакана, як выбух. Розум аказаўся непадрыхтаваным, бяссільным асэнсаваць страшэнную быль. Толькі ў душы нарадзіўся тужлівы боль. Пазбавіцца яго ці магчыма? Пачала шукаць інфармацыю, распытала маму, стала думаць сама, прыслухоўвацца да думак іншых. Цяпер ужо не выкінуць гэтага з галавы, з сэрца. Што б ні чытала, ні глядзела, ні слухала, пастаянна адчуваю цяжар тых страшных гадоў. І, упэўнена. пісаць пра іх трэба больш. Каб ні цяперашнія, ні наступныя пакаленні, не асэнсаваўшы трагедыі трыццатых. не прапусціўшы боль праз свае сэрцы. не змаглі спіхнуць усё гэта ў небыццё. Інакш не збудаваць нам нічога, вартага ЧАЛАВЕКА.**

**Перш за ўсё трэба ўшанаваць памяць ахвяр сталінізму. Але трэба мець на ўвазе і тое, што сказаць праўду да канца немагчыма, не назваўшы імёны канкрэтных выканаўцаў рэпрэсій. Тыя, чыё сумленне (калі яно захавалася) абцяжарана асабліва жорсткімі злачынствамі, павінны адказаць за ўсё перад грамадствам, перад людзьмі — тымі, што жывуць, што загінулі, што не нарадзіліся. Для такіх злачынстваў тэрмін даўнасці не існуе.**

**І. ГАНЕЦКАЯ,**
**аспірантка АН БССР.**
г. Мінск.

**У 1937 ГОДЗЕ я вучыўся ў 9 класе СШ № 19 г. Мінска. А жыў я ў вёсцы Падбалоцце, што паблізу Зялёнага Луга. Мы часта хадзілі на танцы ў клуб саўгаса «Зялёны Луг». І памятаю, што на танцы часта прыходзілі вайскоўцы ў форме НКУС, а то і не ў форме, у цывільным, але мы ўжо ведалі іх. Прыходзілі яны звычайна позна, у гадзін 11—12 ночы і амаль заўсёды нападпітку. Ішлі гаворкі, што яны расстрэльваюць у лесе ворагаў народа (у лесе ля Заслаўскай дарогі). І вось аднойчы мы з сябруком (Міша Макарэвіч, ён памёр ужо) вырашылі праверыць, ці праўда гэта. Пайшлі ў той лес і знайшлі ўчастак, абгароджаны дашчаным плотам. Уезд з боку гравейкі быў зачынены. Мы знайшлі лаз пад плотам і пралезлі на той бок. За метраў пяцьдзесят убачылі пад сасной чалавека. Ён быццам сядзеў, прыхіліўшыся да сасны, а твар увесь быў заліты крывёю. Мы спалохаліся і хутчэй падаліся назад, і нікому не прызналіся, што лазілі туды, што бачылі там. Двое з тых вайскоўцаў ажаніліся з нашымі падбалоцкімі дзеўкамі Ермаловіч Таняй і Ермаловіч Наташай. Таню ў вайну забілі фашысты. Наташын мужык таксама не дажыў да гэтага часу...**

**У. ЕРМАЛОВІЧ.**
г. Мінск.

ШАНОЎНЫЯ таварышы В. Быкаў, З. Пазняк і Я. Шмыгалёў! Пішу вам ліст, бо тое, што вы напісалі, хвалюе мяне даўно і атручвае жыццё вось ужо пяцьдзесят гадоў. Хто не быў сынам рэпрэсіраванага, той не зразумее, што гэта такое. Наўрад ці зразумее. Трэба было перажыць столькі гора і знявагі маме і мне! А што перанёс бацька, і казаць не трэба... Памёр ён пад катаваннямі ў 1940 годзе, да суда, у Вілейскай турме.

Ніякай даўнасці часу для тых катаў! Я ведаю ката майго бацькі. Ён жыве ў Мінску, мае персанальную пенсію, урадавыя ўзнагароды. Лічу, што трэба пісаць пра іх, выводзіць на людскі суд. І трэба пісаць пра ўдоў рэпрэсіраваных, пра лёс іхніх дзяцей, пра іх дыскрымінацыю ледзь не да цяперашняга часу.

Таварышы! Прыедзьце да мяне ў госці, пагаворым, можа, я буду вам чым-небудзь карысны. Тады раскажу пра яшчэ адны Курапаты — Касцяневіцкі лес.

**В. ПАЧКОЎСКІ.**
г. Мядзель.

ХАЧУ сказаць вялікае дзякуй работнікам рэдакцыі за тое, што змясцілі гэты артыкул. І яшчэ большае дзякуй аўтарам яго З. Пазняку і Я. Шмыгалёву за тое, што расказалі нам праўду, няхай горкую, балючую, але праўду. Цяпер я ведаю, дзе былі прысыпаны пяском косці маіх бацькоў. Можа, там знойдзены імі падэшвы ад фетравых ботаў 36—37 памеру — маміных ботаў. У іх яе забралі 10 сакавіка 1937 года, калі яна панесла перадачу бацьку і брату. Першым у нас арыштавалі брата — у ноч з 5 на 6 лістапада 1936-га. Вобыск ішоў да раніцы, перавярнулі ўсё ў доме, на гары, у хляве. Нічога не знайшлі, забралі толькі брата. Раніцай мы даведаліся, што гэтай жа ноччу былі арыштаваны браты Ігнатоўскія Валік і Федзя, сыны акадэміка Ігнатоўскага. Брат мой сябраваў з Валянцінам Ігнатоўскім. У другую ноч арыштавалі брата братавай жонкі. Брат сябраваў з ім са школьнай парты. Адным словам, за дзве начы былі арыштаваны ўсе братавы сябры — адзінаццаць чалавек. Мама вельмі плакала, калі забіралі брата. Той, хто забіраў, супакоіў, сказаў што сын праз колькі дзён вернецца. Мы кожны дзень чакалі брата, але так і не дачакаліся. А ў ноч з 25 на 26 снежня 1936 года забралі бацьку. Вобыску не рабілі, сказалі яму сабрацца, узяць пару бялізны. І таксама запэўнілі, што бацька неўзабаве вернецца. Потым прыйшла і маміна чарга. Калі забралі маму, мне толькі-толькі споўнілася 11 год, і я засталася адна адзінюткая на белым свеце. І што дзіўна, дык гэта тое, што мяне нават у дзіцячы дом не ўладкавалі. Так і жыла адна. Пусціла кватарантаў, яны плацілі грошы, на іх і жыла, вучылася ў школе, да вайны скончыла сем класаў. Бацькі мае не займалі ніякіх пасад, бацька быў рабочым, ударнікам, працаваў меднікам-лудзільшчыкам на «Камунарцы», а мама была хатняй гаспадыняй. Брат скончыў сем класаў польскай школы (тады ў Мінску былі яшчэ польскія школы, я таксама пачынала ў польскай школе, але ў 1937 годзе яе закрылі, і мяне перавялі ў рускую). Пасля школы брат пачаў працаваць на заводзе, не памятаю на якім, потым паступіў на вячэрняе аддзяленне аўтадарожнага тэхнікума, які скончыў у 1935 годзе і пачаў працаваць ва ўпраўленні шасейных дарог. Як бачыце, простыя рабочыя людзі. Дом, у якім мы жылі, бацька пабудаваў з братам сваімі рукамі. Былі людзі працавітыя. Недзе ў канцы верасня 1937 года я панесла перадачу бацькам, але яе ў мяне не прынялі, а аб'явілі, што бацькі мае ўжо высланы з Мінска, асуджаны на 10 год без права перапіскі. Тады амаль усім давалі такі выракі. Я пісала лісты і да Сталіна, і да Калініна, і да Варашылава, і ад усіх быў адзін адказ: справа будзе разгледжана ў хуткім часе. Калі пачалася вайна, мне ўдалося выбрацца з Мінска і дабрацца да Саратава, дзе мяне нарэшце накіравалі ў дзіцячы дом. Ішла вайна, я разумела, што цяпер людзям не да маіх бацькоў, і нікуды не пісала. Як толькі Мінск вызвалілі, я вярнулася дадому. Тут мне расказалі, што мяне шукала жанчына, якая сядзела з мамай разам у адной камеры. Жанчыны той я не знайшла, але суседзям яна расказала, што мама не прызнала сябе вінаватай, што яна вельмі непакоілася за мяне. Нервы яе не вытрывалі, і мама звар'яцела. Я зразумела, што з мамаю ўжо ніколі не спаткаюся. У 1946 годзе звярнулася ў НКУС БССР, каб даведацца пра лёс бацькоў і брата. Мне сказалі, што брат памёр у 1941 годзе ад менінгіту, бацька ў 1942 ад сардэчнай недастатковасці, а мама памерла ў 1944 годзе ад запалення лёгкіх. Я зразумела, што гэта хлусня. У 1947 годзе пакінула Мінск і накіравалася працаваць у вёску, дзе і цяпер жыву — вось ужо 41 год. 19 гадоў працавала выхавацелькай дзіцячага дома, 15 гадоў — настаўніцай пачатковых класаў. Цяпер на пенсіі, мне ўжо 62 гады. У 1956 годзе органы КДБ мяне адшукалі і запрасілі на гутарку. Пакуль я даехала да Мінска, у мяне мроілася многа думак, але так і не здагадалася, чаго мяне клікалі. А паклікалі, каб абвясціць аб рэабілітацыі бацькоў і брата. Тут даведалася, што іх абвінавачвалі ў шпіянажы, здрадзе Радзіме, тэрорах, агітацыі супраць Савецкай улады, дыверсіях. Яны не прызналі сябе вінаватымі. Па справе праходзіла 19 чалавек. Тут жа даведалася, што ўсе 19 былі расстраляны ў 1937 годзе. У артыкуле ўказана, што расстрэльвалі не толькі ў Зялёным Лузе, а і за паркам Чалюскінцаў, у Ждановічах, ля Баравой. Магу яшчэ назваць Кальварыю. Там, за могілкамі, была агароджа, і тады казалі, што там расстрэльваюць людзей, але дакладна аб гэтым не ведаю. Толькі добра ведаю, што ў канцы 1936 і ў 1937 годзе ў Мінску ў турмах былі тысячы вязняў. Каб перадаць перадачу, трэба было займаць калейку за 10 дзён. Калі адкрылі бюро даведак пры НКУС, я прыйшла запісацца ў калейку. Мой нумар быў 6006. А колькі ж запісалася яшчэ за мной, а ў колькіх не было каму прыйсці. Так загінулі тысячы невінаватых людзей. У тым, што за маімі бацькамі і братам няма ніякай віны, я ніколі не сумнявалася. А ад людзей даводзілася чуць: раз пасадзілі, то нешта было, без дай прычыны не маглі арыштаваць. Крыўдна было такое слухаць, даводзілася маўчаць. А як цяжка было жыць з цэтлікам «дачка ворагаў народа». Гэты ліст у рэдакцыю газеты пішу першы раз у жыцці, але так хочацца даведацца, дзе ляжаць косці бацькоў. І яшчэ аб адным прашу мне паверыць. Калі я пішу, што катаў трэба прыцягнуць да адказнасці, ува мне гаворыць не пачуццё мсціўцы. Паверце мне, што я не помшчуся. Мной кіруе не помста. Але ці справядліва будзе, калі той, хто так катаваў людзей, не панясе за гэта ніякай адказнасці? Што на гэта скажуць нашы нашчадкі?

**Г. АПАНОВІЧ,**
**пенсіянерка.**
в. Сычы Нясвіжскага раёна.

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

**ХОЧАМ выказаць прапанову. Абавязкова трэба паставіць на месцы забойстваў помнік. Гэта няправільна, што дагэтуль не ўшанавана памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Бо гэта ж праз гэтыя ахвяры і нарадзіліся вялікія лічбы загінуўшых на Айчыннай. Не было б першых — — было б значна меней другіх. Чаму ж мы пра гэта забыліся? Памылкі трэба выпраўляць. Добра, што пра гэта гаворыць друк. Але ж газеты — не вечныя. Няхай помнік стане маўклівым дакорам і красамоўным напамінам, каб шлях назад быў закрыты назаўсёды.**

**В. КАЗЛОВА, М. ЕФРАМКОЎ, М. БАРАНАЎ, В. ПАВЯДАЙЛА, А. ЛІПСКІ і іншыя мастакі-рэстаўратары ВА «Белрэстаўрацыя».**

●

**РАЮ пашукаць магілы рэпрэсіраваных таксама ў раёне станцыі Сцяпянка, там, дзе была дача Цанавы. Там, у раёне дачы, паводле расказаў мінчан, таксама праводзіліся масавыя расстрэлы.**

**Т. ВЯРБІЛА, ваеннаслужачы.**
Мінская вобласць.

●

**ЛІЧУ, што артыкул упершыню за тры апошнія гады ставіць пытанне пра злачынствы сталінскага часу гранічна канкрэтна, і бачу ў гэтым велізарны крок наперад на шляху ўсёўзрастаючай галоснасці.**

**Лічу таксама, што артыкул справядліва гаворыць пра неабходнасць пакарання, няхай нават сімвалічнага (бо многіх злачынцаў ужо няма), тых, хто адказны за здзейсненае ў 30-я гады. Падтрымліваю прапанову аб узвядзенні помніка ў той мясціне, недалёка ад былой вёскі Зялёны Луг, дзе знішчылі столькі людзей.**

**Ф. КРЫВАНОС,**
**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржмузея БССР.**
г. Мінск.

●

**НІКОЛІ не вагаўся ў пытанні, ці павінен быць помнік ахвярам сталіншчыны, ці не павінен. Гэта проста сорам, што яго дагэтуль няма. Да гэтага кліча памяць чалавечая, пралітая кроў. Мінула паўстагоддзя, а мама мая і сёння часам плача па забраным бацьку.**

**У. СЛАБІН, аспірант.**
г. Гомель.

●

**НЕ МАГУ не адгукнуцца на публікацыю «Курапаты — дарога смерці». Тое, аб чым там напісана, немагчыма асэнсаваць, бо гэта не ўкладваецца ні ў якую логіку. Розум спыняецца перад гэтай жудаснай вакханаліяй цемрашальства і не можа знайсці ёй якога-небудзь вызначэння і апраўдання. Народ знішчаўся ад імя народа і дзеля яго... шчасця. Такіх здзекаў з народа, з вялікай гуманістычнай мэты, прычым з боку свайго «народнага» ўрада, напэўна, не ведала ні адна эпоха і ні адзін народ. Што гэта? Адкуль гэта? З якіх пачварных нетраў?**

**На мой погляд, у Курапатах павінен быць зроблены мемарыял, прысвечаны памяці ахвяр сталінізму. Гэта павінна быць грамадскае пачынанне. Трэба стварыць грамадскі камітэт, які пачне збіраць сродкі, а таксама правядзе конкурс на праект мемарыяла. Мяркую, што трэба прасіць Васіля Быкава ўзначаліць гэтую справу і звярнуцца да народа з адпаведным заклікам.**

**Р. МІНЯНКОЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**
г. Мінск.

# Стральба наўскід

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).

неадабрэннем адносіўся да кіраўнікоў, якія лезуць да першага сакратара абкома з праблемамі, як быццам і сапраўды вераць, што ўсе іх можна вырашыць, і тады пачнецца беспраблемнае жыццё.

Пісьмо Васілій Іванавіч атрымаў і прачытаў. Стоячы перад ім, Грабеннікаў упэўнена, на поўны голас запытаў:

— Як мне быць далей? Чакаць, пакуль афіцыйна прапануеце падаваць па ўласным жаданні, ці працаваць без аглядкі?

— Ты мне скажы, — энергічна пачаў Шостак і адразу ж замоўк, быццам для таго, каб яшчэ раз узважыць, што пытацца. А можа, і як пытацца.

— Я адкажу на любое ваша пытанне, Васілій Іванавіч, — ветліва падахвоціў яго Грабеннікаў.

— Цябе навошта насіла ў бальніцу?

— Гэта было два гады назад. Але мяне не насіла, Васілій Іванавіч. У раённую бальніцу я вадзіў усё бюро райкома партыі.

— На які ляд?

— Першым маю ўвагу на раённую ахову здароўя звярнуў загадздела прапаганды Сёмін Альберт Аляксандравіч. Па яго просьбе я ўключыў у свой асабісты гадавы план наведванне бальніц і паліклінік. Праўда, сяброўка маёй жонкі, сама ўрач, Нікіціна Ангеліна Сяргееўна папярэджвала мяне: «Не хадзі ў бальніцы — захварэеш ад аднаго выгляду, што там робіцца. За ўсё трэба плаціць, за ўсё бяруць, наша ахова здароўя, ведаць бы табе, даўно ўжо платная, самая платная ў свеце. Ты, — сцвярджала яна, — не зробіш яе зноў бясплатнай, толькі ворагаў нажывеш і здароўе ўгробіш». — «Я не збіраюся рабіць яе бясплатнай, гэта пакуль не пад сілу райкому, — адказаў я. — Але зрабіць, каб гэтае наша самае платнае ў свеце адначасова было прыстойным, мы можам? Хай будзе платнае, але на прынцыповай аснове. Узялі грошы — дык давайце тое, за што ўзялі. Забяспечце чалавеку лячэнне».

— Ты вядзеш такія гаворкі з радавымі членамі партыі?

— Яна, Васілій Іванавіч, беспартыйная... Яна, вядома, перабольшвала, але не так, як я думаў, пакуль не ўбачыў усё на свае вочы. Прасціны і ручнікі — чорныя, падзёртыя. Сеткі ў ложках такія, што людзі ў іх вісяць, як у гамаках. Запомніў адну жанчыну ў гінекалогіі: з пышнымі валасамі, яшчэ зусім маладая, але ўжо старая. Састарэла літаральна за некалькі дзён знаходжання тут, у гэтым смярдзючым гамаку. У гэтай маладой жанчыны не было нічога сур'ёзнага, як мне сказалі, а састарэла яна ад сваёй уразлівасці, ад прыніжэння, што яе, ні ў чым не вінаватую, паклалі ў гэтыя ўмовы. Іншыя скардзіліся навыперадкі, а гэтая наадварот—пакутавала, што я звярнуў на яе ўвагу. Скурчвалася і ўсё падтыкала пад сябе гнілыя анучы, якія ў іх лічыліся прасцінамі, не хацела, каб я іх угледзеў.

— А галоўны ўрач? — злавесна спытаў Шостак. — Што там у цябе з ім здарылася?

— Батожскі Аляксей Уладзіміравіч. Азызлы ад п'янства, саракавога года нараджэння. З медыцынскай сям'і, але вырадак. На ўсе мае пытанні даваў вядомыя адказы: таго няма, таго і не было, таго ніколі не будзе, а што тычыцца прасцін, іх ненатуральнага колеру, дык уся бяда ў іржавай вадзе. Рвуцца ж яны ад зносу — на ўсё, маўляў, ліміты, на ўсё абмежаванні. А прайшліся па кладоўках — «полна коробушка», новай бялізны залежы, стосы да столі.

— Што ў цябе з ім здарылася? — паўтарыў Шостак. Ён чамусьці нерваваўся.

— Нічога. Далі строгую вымову і забаранілі трайное сумяшчальніцтва. Цяпер ён піша на мяне ў абком, што ў мяне сур'ёзныя парушэнні псіхікі. А ў вас гэтую пісаніну не толькі чытаюць, але і сакрэтна падшываюць, — Грабеннікаў асекся. — Васілій Іванавіч, чым выклікана ваша цікавасць да маіх адносін з Батожскім? Ці не яго пісанінай?

— Ніякай асаблівай маёй цікавасці няма, — хмура сказаў Шостак, апускаючы вочы.

— Як жа няма? Вы пра што паўгадзіны распытваеце? Я не магу працаваць з аглядкай!

— Працуйце без аглядкі! — Шостак хацеў хутчэй ад яго пазбыцца.

— Тады ў мяне павінны быць развязаны рукі. Па-першае, на Віблага...

— Але, Віблы нас падвёў, давядзецца яго выключаць.

Не трацячы часу на Віблага, Грабеннікаў тут жа падняў пытанне аб сакратарах райкома. Дзякуючы Салавай—Нялавай гэта было, пераважна, дамскае пытанне.

— Я вам паведамляю, Васілій Іванавіч. Жывуць двайным жыццём. Я ўжо заяўляю пра гэта ўслых перад актывам. Што, кажу, за трасца: якую брудную справу ні зачапі, абавязкова раскапаеш цэлы клубок, і ўсе канцы вядуць у наш Дом Саветаў, прытым у галоўныя кабінеты! Што ні цёмны тып у раёне, то іхні прыяцель. Усе яны штосьці праварочваюць, кагосьці кудысьці ўладкоўваюць, ад кагосьці адводзяць якіясьці непрыемнасці...

— Глядзець за імі трэба лепш, — упарціўся Шостак, не хацеў аддаваць іх яму на расправу.

— Глядзім, Васілій Іванавіч. І бачым: вытвараюць ліха ведае што! Гандлёвую сетку разбэсцілі ўсю зверху данізу, дарэшты, ды далей няма куды. Злодзей на злодзеі — і ўсе ва ўслугоўванні ў першых асоб раёна. Дакладна вядома, як яны адбіралі на базе лепшы фарфор і крышталь, які пасля спісваўся на перасоўныя крамы — на даярак, на калдобістыя дарогі да іх.

— Гэта Салава і Нялава?

— А то хто ж! Яны.

— Лярвы, — уздыхнуў Шостак.

— Гэта само сабой, гэтага я нават не чапаю. На базах ім памагае іх стаўленіца Грамакова Лілія Іванаўна. Ёй яны даручылі кіраўніцтва гандлем раёна.

— Тая Грамакова, што з Аднакапылавым дурэе?

— Не магу адмаўляць, Васілій Іванавіч.

— Ды ён іх, напэўна, усіх грабе.

— Не ўсіх, але ў межах вобласці значную частку, гэта вам вядома лепш, чым мне. Ва ўсякім разе, Грамакову трымае ён. Работнікі базы расказваюць, што па крышталь і фарфор ездзілі, як у тэатр, правільней, як у музей: любуйся і тым сервізам, і гэтым, ведаючы, што можаш узяць хоць той, хоць гэты...

— А то і абодва, — яшчэ раз уздыхнуў Шостак.

— Што нам заставалася? Парашылі выключаць з партыі камуністаў-прадаўцоў, камуністаў-загмагаў, камуністаў-кладаўшчыкоў, паставілі гэта на рэгулярную аснову. Працуючы ў сельскай гаспадарцы, я, Васілій Іванавіч, не звяртаў увагі, якая вялікая партыйная праслойка ў нас у гандлі. Ніякіх праблем з ростам шэрагаў, з амаладжэннем, самая вялікая чарга жадаючых, партыйным уплывам ахоплены ўсе ўчасткі. А на вяршыні піраміды — Салава—Нялава.

— Разбярэшся і з гэтымі, працуй, — рэзка абарваў сустрэчу Шостак і, не развітаўшыся, пайшоў, з цяжкасцю пераступаючы ногі, у пакой для адпачынку.

Ён іх яму яшчэ не аддаваў, але і не трымаў, як раней, як усяго пяць хвілін назад, — гэта было ўжо сёе-тое.

Грабеннікаў не паспеў даехаць да Іжы, як яму было перададзена па рацыі ў машыне распараджэнне адразу па прыездзе пазваніць Васілію Іванавічу Шостаку. Стары, пэўна, штосьці недавысветліў. У такіх выпадках ён рабіўся нецярплівым, неабходны чалавек патрабаваўся яму неадкладна, мог быць падняты з пасцелі, вернуты з дарогі, выкліканы з лазні.

Так і аказалася—давялося вяртацца ў абком.

— Ты ачмурыў мяне сваімі дамамі, — сказаў ужо больш бадзёры пасля адпачынку Шостак, — і я забыўся ў цябе спытацца. Што за начное жыццё там у вас адбываецца?

— Начное жыццё раёна мне адкрыў начальнік міліцыі Сёмушкін Юрый Міхайлавіч, — як заўсёды, без замінкі пачаў дакладваць Грабеннікаў. — У ім удзельнічалі не толькі асобныя людзі, а цэлыя пласты насельніцтва. З некаторых аўтагаспадарак па начах на лінію выходзіла больш спраўных грузавікоў, чым у дзённы час. Змагаючыся з гэтай з'явай, перавялі на начны рэжым работы аўтаінспекцыю, прынялі іншыя меры. Цяпер стала цішэй.

Васілія Іванавіча гэтая інфармацыя не задаволіла.

— Зноў мяне, чакай, дурыш. Пра якое т в а ё начное жыццё пішуць?

Шостак, дзякуй яму, упершыню за два з гакам гады, здаецца, наважыўся ўнікнуць у антыграбеннікаўскую пісаніну, што сабралася ў абкоме.

— Тваё — зразумеў? Не на-

# Святочны дзень, святочны...

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9).

2

Святочны дзень пачаўся для гаспадыні па звычаю рана. Груваcткія сівыя хмары, што ўжо некалькі дзён аблажна віселі над Вялікаю Ігрушаю, на світанні разагнаў вецер. Змёў белую навісь і з галля дрэў, кустоў. Пушыстыя зіхоткія шасцікутнічкі сняжынак доўга ссыпаліся з галінак долу. Далёка - далёка, аж каля самага гарызонту, па малочнаму шэраму небу паплылі тоненькія яркія нітачкі заранку. Святлела зямля і чысцеў гарызонт над Валатоўшчынаю. Новы дзень прыйшоў на зямлю. Вясна адмыкала воды і сэрцы.

Бадановічыха не заўважыла хараства прыроды. Багата спраў было ў яе, упраўляйся толькі са ўсімі. Калі прыйшоў Адам, яна ўжо добра-такі напрацавалася.

— Хм-хмы... — пэчмыхаў гаспадар, уважным вокам пазіраў на кухонныя прыгатаванні руплівіцы. — Раней успароцца не магла? Пачакала б з працаю сёння, можа, лежні ўстануць, пасобяць.

— Не кажы што ня след, — звыкла адбілася ад звыклых папрокаў жанчына. — Ні будуць дзеці ўсчынацца ні свет ні зара, каб маю працу рабіць.

Старыя Бадановічы не ведалі гэтага, але былі шчаслівымі. Іх доўгае адзінае каханне не замуцілі час і людзі. Гады знялі вастрыню пачуцця, выкавалі ва ўзаемаадносінах павагу і цярплівасць.

Выхаванне дзяцей у Бадановічаў зводзілася да двух нескладаных прынцыпаў: працалюб'я і павагі, павагі да старэйшых, чужой думкі, чужых звычаяў. Дарослых дзяцей яны не прымушалі жыць так, як хочацца бацькам. Хай кожнае само торыць сваю дарогу, уласная ноша, як і галава, не цяжкая.

...Першай прачнулася Марыя. Маці хацела пагаварыць з ёю. Дачка аджартавалася: нагаворымся, будзе яшчэ час.

Ева Бадановіч хацела дзецям шчасця: каб яны былі ўсім задаволеныя, калі гэта магчыма на зямлі, згодна была іх падоўгу не бачыць. Прыехалі — то яна жадала пагаварыць з імі. Хто павучыць вучоных невукаў, падкажа так, як маці... Не ўдавалася; маці не вінавяціла іх, вінавяціла сябе.

— Цішэй хадзі, не разбудзі астатніх сясцёр, — пакорліва прамовіла маці.

Бацькі паспелі натупацца па гаспадарцы, пакуль сям'я ўселася за святочны сняданак.

Першы сын, Ян, лічыўся самым разумным у сям'і, бо дасягнуў найбольшых службовых поспехаў, стаў раённым меліярацыйным начальнікам. Ян пашаптаўся з Ігарам і сёстрамі, падняўся з-за стала і ўзнёсла пачаў:

— Мама, усе мы віншуем вас ад душы і сэрца з днём жанчын. Сясцёр таксама віншуем. Жадаем вам шчасця і радасці ў жыцці, а самае галоўнае, моцнага здароўя. Мы шкадуем, што рэдка ездзім у родную Вялікую Ігрушу, нашу хату.

Прыезд на бацькаўшчыну, размовы з аднавяскоўцамі ачысцілі душы малодшых Бадановічаў, абудзілі да дабра і спачування. Новых сяброў у іх было мноства, але самыя чыстыя, бескарыслівыя, а таму і дарагія былі ў Вялікай Ігрушы. Дома Бадановічавыя дзеці адталі сэрцам. Нават іранічна-патрабавальна настроены да ўсіх аспірант-глебазнаўца Ігар не гаварыў пра тупіц-меліяратараў, неразумных асцярожнікаў - начальнікаў, пра неразвітасць сельскагападарчых тэорый, не надакучаў бацька роспытамі пра гатункі і догляд вінаграду, — вёска і для яго была самым кондавым, асноваю жыцця.

— Мама, дзе я ні бываю, вы ўсюды са мною. Выказаць не магу, але гэта так. Як гад які дапякае, згадваю вашу цярплівасць — і крыўда амаль праходзіць.

Прачулае слова Ігара да маці падтрымалі сёстры Марыя, Станіслава, Хрысціна. Яны не адмаўлялі, што жаночае свята тычыцца іх саміх, але яно, пераконаны, у асноўным свята такіх шчыроўных працаўніц, як мама.

Рукі Евы Бадановіч ледзь прыкметна дрыжалі, калі яна трымала парфумны набор. Хоць у галаве адна думка — «навошта ёй, старой, касметыка», — а ўсё ж было прыемна. Штосьці лёгкае і вострае шырыла грудзі.

Стары Адам Бадановіч чмыхнуў, круціў вусы, весела казаў, гледзячы на ўвішных і дагодных сыноў:

— Выходзе, адзін я, стары корч, нічога не дацяміў купіць на павіншаванак. Ні жонцы, ні дачухнам.

Усе за сталом смяяліся. Было весела, ажыўлена.

Гаспадыню пасадзілі за стол. Са святочнай, але ўмеранай шумнасцю і ўрачыстасцю зноў гаварыліся словы, якія гаворацца ў такіх выпадках. Жанчыны радаваліся. Калі прыйшлося ісці па новыя стравы, Ева не даверыла далікатнай і важнай справы сынам ці мужу. Балазе тыя не надта і падахвочваліся.

— Я сама ўпраўлюса. Сядзіця, памачнікі...

Усю доўгую раніцу пратупала гаспадыня, прыхваткам прысаджвалася да стала, зрэдку ўстаўляла адно-два словы ў кніжную і ад таго, як ёй мроілася, мудрую спрэчку дзяцей.

Стары Адам Бадановіч завядзёнкаю маўчаў.

Мокры веснавы вецер пагрымваў снегам і вецем вішняў па бляшанаму даху мураванкі. Трубы і гармонікі ранняй вясны стыла і акаянна сыходзілі гукамі, а ў гасцінным пакоі было ўсцішна і супакоена, утульна.

У канцы снедання Ян прапанаваў маці схадзіць з дзецьмі ў вясковы гмахкі магазін, — ён размешчаны ў цэнтры вёскі, каля сельсавета, клуба і царквы. Памераюць — і, можа, падыдуць маці буркі, што ўчора яны адклалі для сённяшняга прагляду.

— Не выдумляйця, дзеці. Абутку ў мяне болей, чым трэба, — катэгарычна адмовілася Ева Бадановіч. — Дай бог увесь знасіць здаровай.

Дарослыя дзеці ў маці па-ранейшаму былі малымі і безграшоўнымі. Яна берагла іх капейку.

— Мама, буркі замежныя, цёплыя. Памераць трэба, наўзгадку не падбярэш. Сходзім, — прасіў Ян.

Валявога энергічнага мужчыну не пазнаць. Ён і Аляксей Дарашчэня, таксама начальнік, толькі не меліярацыйны, а будаўніцкі, на Вялікай Ігрушы карыстаюцца асаблівай павагаю. Для гэтага ім, вострым на слова, не патрэбна вялікіх намаганняў і шмат слоў, чаму нямала дзівіцца Ігар Бадановіч. Вяскоўцы з сур'ёзным маўклівым Янам трымаюцца проста, але граніца адчуваецца, паляпвання па плячах, як Ігара ці Аляксея Бялько, ніхто не дазваляе. Сярод вялікаігрушаўцаў хадзіў, унікаў у побыт не проста лагодны і добры інтэлігент Ян Бадановіч, як і ўсе інтэлігенты ў часе прыезду ў радзімную вёску, — перад імі быў начальнік. Нават брыгадзір і старшыня калгаса з ім размаўлялі са спасцярожлівасцю.

— Мама, мы абодва выбіралі буркі, — Ігар адразу папраўіўся: — Маня і Хрысця таксама бачылі. Сходзім, памерайця.

У абодвух сыноў шырокія і высокія лбы, зеленаватыя вочы, прамыя доўгія з гарбінкаю насы, маленькія параўнальна з вялікім тварам губы, валявыя падцятыя падбародкі. У найболей удалага сына, Яна, і раскіданага мэлахлівага Ігара, вочы часта сумныя. Маці гэта не падабалася.

— Не трэба мне буркі, валёнкі цяплейшыя.

3

Сыны і бацька наважыліся пайсці паглядзець калгасны сад. Адтуль зойдуць да бабы Клавы, яна даўно прасіла ўнукаў прыйсці ў госці. Сёстры згадзіліся пайсці з братамі з адной умовай: калі тыя разам з імі зойдуць ва ўчастковую бальніцу. Медсястры Станіславе не цярпелася сустрэцца з дзвюма сяброўкамі, паглядзець, як ім працуецца ў бальніцы.

Перад шпацырам, ад якога па агульнай маўклівай згодзе лёгка адбілася Ева Бадановіч, у яе мноства спраў, цётка Клава даруе, што яна не прыйдзе сёння, перад шпацырам да маці падлашчылася Станіслава:

— Мама, пакажыце свой набор.

Ева Бадановіч не ведала, што рабіць з парфумай. Яна і маладая не ўжывала гэтую непатрэбшчыну, якая адно старыць твар, а цяпер і зусім парфума не трэба. Згледзеўшы ў тонях млявых вачэй модніцы-дачкі зіхатлівыя водсветы, маці прапанавала набор ёй. Тая, хоць і атрымала ад братоў падобны, узрада-

роднае, якое мне вядома. — тваё начное жыццё!

А ўнікаць, калі хацеў ці калі прыпірала, Васілій Іванавіч умеў. Аднак было ад чаго і пахаладзець. З пытанняў вынікала, што Шостак нічога не ведаў пра с в о й раён і свайго вылучэнца: нават таго, што Грабеннікаў узяў пад свой кантроль самы цяжкі і шкодны для здароўя ўчастак — начное жыццё раёна...

— Узяў, ну і хрэн з табой, бяры, — перапыніў Васілій Іванавіч, заднім днём дазваляючы гэты дур. — Але чаму цябе ў тваім начным жыцці ўсюды і заўсёды суправаджае начальнік міліцыі? Баішся нападу? Напады былі? Ці ён пры табе для прэстыжу целаахоўнікам?

Што ж Шостак ведаў пра свой раён?

— Васілій Іванавіч! Нападу я не баюся. Нападаў не было, хоць вам пра іх і пішуць. Начальнік міліцыі нічый не целаахоўнік, *проста мы з ім у адной групе*, ён, я і Сёмін — за намі ж і замацавана начное жыццё!

— Сёмін? Гэты дваяжэнец? Хто ён такі?

Вось дзівосы старэчай памяці! Што дваяжэнец — памятае (перайшло з нейкай ананімкі ў галаву і асела там), а хто ён, гэты дваяжэнец, і што сабою ўяўляе, не ведае.

— Ён не дваяжэнец, Васілій Іванавіч. Ён разведзены, у яго другая сям'я. Альберт Аляксандравіч Сёмін. Загадчык аддзела прапаганды. Ён першы звярнуў маю ўвагу на ахову здароўя.

З імі, з дарагімі для яго Алікам Сёміным і палкоўнікам Сёмушкіным, Грабеннікаў праварочваў галоўныя свае справы і пачынанні ў Іжы. Сёмін прыдумаў штодзённую перадачу на мясцовым радыё: «Для тых, хто стаіць у чарзе па гарэлку». На ўвесь раён яны пакінулі два гарэлачныя магазіны, пачатак іх работы ссунулі да чатырнаццаці гадзін, і роўна ў чатырнаццаць пачыналася гэтая перадача. Рэпрадуктары былі павешаны так, каб папярэджанні ўрачоў, просьбы жанчын, скаргі дзяцей гучалі проста над чаргою і каб да рэпрадуктара нельга было дацягнуцца.

— Наконт дзяцей — гэта вы добра, — ухваліў Шостак.

— На дзіцячыя галасы быў асаблівы разлік. Хай школьнікі расказваюць, як з-за п'яніцы бацькі цяжка рыхтаваць урокі, няма ў чым выйсці на вуліцу, за што купіць хлеба. Нічога не трэба хаваць, вырашылі мы. Усё ў гэтых перадачах павінна быць такім жа страшным, як і ў жыцці.

— А гэты твой целаахоўнік? Палкоўнік. Як прозвішча палкоўніка?

З палкоўнікам Сёмушкіным яны выкінулі з міліцыі больш за трыццаць выпадковых і разбэшчаных элементаў, аддалі за хабар пад суд начальніка крымінальнага вышуку, выгналі за п'янкі начальніка АБРСУ. Палкоўнік не быў вылучэнцам Грабеннікава, у Іжы яны паявіліся на адным тыдні незалежна *адзін ад аднаго, першы* — з саўгаса, другі — з Афганістана. На думку Сёмушкіна, ён, Грабеннікаў, выклікаў на сябе град ананімак не столькі тым, што стаў праследаваць схільных да правапарушэнняў членаў бюро і выканкома, колькі тым, што прымушаў іх п р а ц а в а ц ь. Для самога палкоўніка надзвычайнае становішча, якое ўводзіў у раёне першы сакратар, пасля Афганістана не з'яўлялася асабліва цяжкім: тут жа не было спякоты пад пяцьдзесят, не свісталі кулі, не даводзілася самому сабе гатаваць ежу на вогнішчы.

Не ведаў Сёмушкіна!

— Ну, працуй, — сказаў Шостак не толькі супакоена, але і як бы адчуваючы сваю віну.

# ТАЛЕНТ НЕ СТАРЭЕ

## Дэсанка МАКСІМАВІЧ адзначыла сваё 90-годдзе

**Сапраўднаю культурнаю з'явою не толькі ў кантэксце сербскай літаратуры з'яўляецца творчасць Дэсанкі Максімавіч, якая 16 мая гэтага года адзначыла сваё 90-годдзе.**

**Пройдзены зайздросны вялікі жыццёвы і творчы шлях. І зайздросна плённы — больш за 30 зборнікаў паэзіі, акрамя гэтага, кнігі прозы, эсэістыкі, перакладаў. Па заслугах такі ўдзел у культурным і грамадскім жыцці адзначаны шматлікімі *літаратурнымі прэміямі*, дзяржаўнымі ўзнагародамі, званнем акадэміка Сербскай акадэміі навук і мастацтваў.**

**Паэзія Дэсанкі (так, без прозвішча завуць яе ўсе ад малога да старога ў Сербіі) стала неадрыўнай часткай культурнай свядомасці нацыі. Не толькі таму, што яе вершы ў чытанках, адрасаваных найменшым, у школьных хрэстаматыях і розных анталогіях — г. зн. суправаджаюць чалавека па жыцці ад першых і да апошніх крокаў. Важней, мабыць, другое — жывы кантакт яе са сваім народам, з трывогамі і радасцямі ўсяго свету.**

**14 верасня 1986 года. Вёска Тршыч, радзіма славутага Вука Караджыча. Павінен пачацца ўрачысты збор у рамках традыцыйнага народнага свята — Вукавых Дзён. Праходзіць гэты збор на полі непадалёку ад хаціны Вука. На роўнай мясціне прасторныя падмосткі, а па схіле пагорка ў шмат ярусаў лавы. Люду, пэўна, не адна тысяча. Натуральна, мітусня, гоман. І раптам гармідар спыняецца, становіцца ціха. А праз момант — бура апладысментаў і скандзіраванне: «Дэ-сан-ка!...»**

**Да лавы першага рада падыходзілі дзве жанчыны, узяўшыся *пад рукі*. Адна з іх, *прыкметна* старэйшая, у белым уборы, і была Дэсанка Максімавіч. Паходку яе, зразумела, ужо не назваць бадзёрай, але і старэчай не назваць. Прыпыніўшыся каля лавы, Дэсанка высока узняла галаву — да ўсіх радоў, зусім па-свойску памахала рукою і заўсміхалася. Віталіся людзі, якім хацелася сустрэцца, сустрэча здавалася прыемнай. З аднаго боку шчырая, прыязная агромністая грамада, з другога — не меней шчырая, прыязная часціна яе.**

**Не будзе перабольшаннем, калі адзначыць, што Дэсанка Максімавіч самая вядомая з югаслаўскіх паэтаў у Савецкім Саюзе. Асобнымі выданнямі творы яе выходзілі на многіх мовах народаў СССР. І сама Дэсанка Максімавіч шмат зрабіла для знаёмства югаславаў з савецкай літаратурай, за што ўзнагароджана нашым ордэнам «Знак Пашаны».**

**Прыемна, што ёсць нітачкі, якія звязваюць гэтую вядомую пісьменніцу і з беларускай літаратурай. Яна пераклала на сербахарвацкую мову «А хто там ідзе?» Я. Купалы, падтрымлівае сувязі з Э. Агняцвет. На беларускую мову яе вершы ў розныя часы перакладалі П. Броўка, Н. Гілевіч, Э. Агняцвет. Самы вядомы твор Д. Максімавіч — верш «Крывавая казка». У нашай літаратурнай свядомасці ён прысутнічае апасродкавана — дзякуючы П. Панчанку, Я. Сіпакову.**

**А перакладзены на беларускую мову ён упершыню.**

**Іван ЧАРОТА.**

**Дэсанка МАКСІМАВІЧ**

## *Крывавая казка*

Гэта было ў краіне сялянскай,
горнай, Балканскай.
Бязвіннаю смерцю
пагінулі дзеці —
некалькі класаў.

На шчасце, на долю
іх гадавалі матулі,
разам яны пачыналі вучобу,
былі ў іх агульныя
святы і гульні,
адныя і тыя нават хваробы,
і разам усіх пакасілі
фашысцкія кулі.

Гэта было ў краіне сялянскай,
горнай, Балканскай.
Бязвіннаю смерцю
пагінулі дзеці —
некалькі класаў.

Сядзелі
яшчэ за гадзіну да смерці
за школьнымі партамі
гэтыя дзеці.
Яны да задачы шукалі адказы
пра пешаходаў:
ці сыдуцца разам
і пройдуць па колькі?
Як іх навучылі —
дзялілі, складалі,
ды ўжо бессэнсоўна
па сшытках стаялі
пяцёркі і двойкі.
Былі ў аднагодкаў
звычайныя мроі
і пра каханне, і пра геройства,
а таямніцаў у сэрцах
маленькіх
не набіралася болей як
жменька.
І думалі дзеці:
ім крочыць бясконца
пад небам блакітным, пад
радасным сонцам,
на ўсё хопіць часу — і свету
пабачыць,
і ўсе парашаць у тым свеце
задачы.

Гэта было ў краіне сялянскай,
горнай, Балканскай.
Мужнаю смерцю
пагінулі дзеці —
некалькі класаў.

Плячом да пляча
станавіліся дзеці,
з пагардай
ішлі, не мінаючы смерці,
з апошняга ўрока,
без слёз і папрокаў,
плячо да пляча —
і пайшлі беззваротна
у вечную памяць,
у бессмяротнасць.

Пераклад К. СЕВЯРЫНЦА і І. ЧАРОТЫ.

ваная, доўга дзякавала. Маці радасна: зрабіла прыемнасць дачцэ і пазбылася дакучнага падарунка.

Мужчыны няспешкі сабраліся ў дарогу. Трэба пазнаёміцца бліжэй, як сказаў малодшы сынок, са сваёй мясцовасцю, з родным калгасам, а то часта нагледзішся чаго хочаш на свеце, а пра родны кут, апроч успамінаў дзяцінства, нічога не ведаеш.

Дзённая чысціня маўклівых дрэў саду зачаравала сям'ю Адама Бадановіча. У шыза-блакітных, нібы ад туману, масівах зрэдку стрэльне сук, шусне снег з дрэва, шумне гнуткім крыллем птах. Рыпне снег... Суцішная астоенасць прыроды і зямлі зрэдку азываецца далёкім-далёкім гудам. І зновеш цішыня, велічная, шаломная. Ад яе адвечнасці і звону кружыцца галава, а ў сэрцы асяляецца лагоднасць, супакой. Супакаенне душу калыша.

У нерухомых заснежаных вачах ігруш і яблынь успыхвалі водбліскі сонца. Белы пух курыўся над абсягамі блізкай Ігрушаўкі. Іскрыстая зямля ў сваю белую коўдру сабрала з неба мільярды зор, і яны ззялі, рассыпаліся, мільгацелі пад сонцам лепей, чым вечарам. Лагуна шырокай калісьці рэчкі, парослая асакою і ленчыстаю ніцаю травою, назву яе даўно забылі вывучаныя дзеці, хавала цэлыя скарбы аксамітаў, яхантаў, вясёлак. Прашумелая хваля вятрыскі свежасцю напаіла паветра. Ціхі гул зачынаўся дзесьці высозазна ў аблоках, глухіх нетрах Валатоўскіх лясоў... І зноў вятрыска аблашчыў твары людзей, голле саду. Бадановічы былі амаль у цэнтры вёскі, у садзе, і былі ў чараўніцкім, забытым богам і людзьмі лесе.

Даўно ўжо дарослыя дзеці Адама Бадановіча, як першакласнікі, раз-пораз ахалі. Нават не думалася, што побач такая прыгажосць.

Ева Бадановіч не пайшла з сям'ёю. Хоць старая і не ведала толкам свайго наваколля (яна ведала яго гэтаксама, як здольная сярэдняя дачушка цэнтральныя вуліцы горада, дзе жыла), але не пажадала марнаваць час. Прыбраўшы хату, жанчына зашыла фіранку на акне ў кухні, а пасля занялася тым, што даўно выснавала ў думках, — прыгатаваннем «царскага» абеду. Халоднае дзелавітае імкненне адмыслова выканаць задуманае поўніла яе.

За гэтым яе і заспела задаволеная мацыёнам сям'я. Шпацыр нагуляў дзеткам апетыт, згаладаныя госцейкі елі дружна. Гаспадыня ледзь упраўлялася насіць стравы. Радавалася. Усё ішло добра, правільна, як і думалася.

Неўзабаве палуднікавалі. Свята, і ў сям'і адно і рабілі, што адпачывалі і елі. Так заўсёды вялося амаль ва ўсіх сем'ях на Валатоўшчыне.

Гаспадыня была невясёлай. У час вялікіх усенародных ці вялікіх рэлігійных святаў у душы жанчыны часта прачыналася і звінела ўрачыстая музыка. Жыла музыка доўга. У гэтыя пагасціны і сённяшні святочны дзень, дзень жанчын, у душы Евы Бадановіч было ціха, як у калодзежы, з якога ніхто не чэрпае ваду. На душы Евы Бадановіч была стома.

4

Час ішоў. Гожы ціхі надвячорак звodзіў павеі. З-пад засяроджаных лап крутаверхіх нямоўклых ялін папаўзла цемра, зацягвала наваколле. Стромыя адвесныя дрэвы сталі гузастымі, бясстволымі. Неназойлівае месячнае святло палосамі і шашачкамі клалася на зямлю. Цяжкая ад чарнаты рачная вада, жоўкла-зялёная ў чорных водсветах сакавіцкага змяркання, пералівалася ў рэдкіх бліках электраагнёў. На вуліцы вёскі сцішана мыркала радыё. Гаспадыня напявала песню. Яна збіралася ў тэатр.

Слуцк быў непадалёку ад вёскі, за дзевяць кіламетраў, дзеці наважылі звазіць маці і бацьку на прадстаўленне прыезджых артыстаў. Гаспадыня ў час збораў молада смяялася, калі нягнуткія карузлыя пальцы не маглі прывычна ўкласці валасы на галаве. Як ні ўзіралася ў люстра, усё было не тое. Даўно не прыхарошвалася старая.

— Ой, мама! Гэта ж не ўкладка, а гора, — залівістым срэбраным смехам зацякалася Хрысціна. — Хіба можна з ёю на людзі паказвацца?

Ручая ласкавая дачушка падахвоцілася пасабіць маці.

— І з такою грываю не сарамаціцца старой маладзіцы, — адвергла Ева Бадановіч першую прычоску, выструненую спрытнымі маладымі пальчыкамі дзяўчыны.

— Вы не разумееце, мама, не разумееце. Такая ўкладка амаложвае. Пабачыце, людзі ўхваляць, — настойвала на сваім дачка.

— Ні кажы нявартае. Пляцеш, што на язык.

— Не, вы ўгледзьцеса...

У жанчын бракавала часу. Прыйшлося соўма-порма кончыць уборы і бегчы, бо маглі спазніцца, у тэатры чакаць не будуць. Ева Бадановіч да мастацтва, нават да высокага і незразумелага, як сімфанічная музыка, ставілася значна сур'ёзней і ўдумней, чым думалася, гледзячы на просты парэпаны твар і глыбокія светлыя вочы старой.

Маці і дочкі выйшлі з хаты разам. Весела іскрыліся пацеркі асветленых акон хацінак вёскі. На сіня-шэрым снезе *мільгацелі месяцавыя блікі*. У начной светлаце выразна чарнелі цені. Адзін, ад сямейнага «Масквіча», гарбаціўся на снезе прама ля ног жанчын.

Гаспадыня глянула перад сабою. Ззаду на сядзенні ўмошчваўся хмурны стары. З унямелымі тварамі перакідваліся пра нешта сыны — Ян за рулём, Ігар стаяў каля машыны.

— Не падумаў, не падумаў, — перакрыўляў Яна малодшы Ігар.

Гаворка была важная; злосныя сыны нічога ўзбоч не заўважалі. Дочкі ніякавата пераміналіся поруч машыны.

Не пайшла, зніякавелая, да гасцінна расчыненых дзвярэй і Ева Бадановіч.

Прахалода начной шызані ўхутвала зямлю. Шырокае, расчыненае неба заходзілася ў метэорным плачы. Асляпляльна-белыя зоркі і ціхмянае міготкае ззянне вадзяных сцяжынак.

Пальцы Хрысціны шавеляцца хутчэй, хутчэй, хутчэй...

Маці ведала, як убіралася самая маладая дачка, што казала, чым жыла ўвесь доўгі дзень. Маці ціха прамовіла:

— Ідзіця садзіцеса.

— Не...

— Не экайця, йдзіця. Я ні пайду. Мноства спраў...

Добрай і лагоднай характарам старой рашэнне прыйшло нечакана. Вядома, адно так патрэбна зрабіць, думала яна, прызвычайвалася да новага павароту абставін.

—Мама, я не паеду, не хочу,— сказала Марыя. Падтрымала Станіслава.

— Я выйшла вас праводзіць, — мужна змяніла гаспадыня. — Бачыця, не зашпільвалася нават. Куды мне трэсціса на старым і цесным драндулеце...

— Едзьце вы, мама. Я сапраўды не паеду, падумаеш, — Ігар быў шчыры.

Гаспадыня нічога не адказала сынам. «Сядзелі, ведалі, што двух месц не хапае...» Тахкала сэрца. Маці глядзела на сям'ю; яна жыла дзеля яе. Другога шчасця ў яе не было. Сям'я — галоўнае на свеце. Так заўсёды думала, так яно і выходзіла. Жанчына мала чаго жадала сабе, усё дзеля іх, сваіх дурных у адукацыі і пранцаватых у бясчуласці дзяцей.

Яна сказала цвёрда:

— Едзьця, дзеці. Я сапраўды ні хочу. Едзьця, — падсадзіла дачок, усміхнулася. Стары Адам увесь час уніклівa пазіраў на жонку, маўчаў.

Цёплы ўздых матора. Вінаўся заслед рыжы снежны пыл. Тонкае пяенне птушкі, — адкуль яна і ўзялася? А мо гэта звінелі настылыя кроны вішняў і яблынь... Ева Бадановіч стаяла на дарозе, маршчыністы твар задумліва-засяроджаны.

Ігар пайшоў да сябрукоў.

У дыхтоўнай светлай мураванцы жанчына павольна-павольна пераадзявалася ў будзённае. Неўзабаве зноўку ўзялася за працу, цяжкую, не надта бачную, тлумную... Неабходную.

Пячэнні, варэнні. Вілачнік, саган. Нясконцыя прывычныя рухі, і дрыжаць ад стомы пальцы рук. Нямала гасцююць дзеці, а ні сыны ні дочкі так і не *пагаварылі з маці на адзіноце*. Усё *спяшаюць*. Як і няма іх. Крыўдна.

Што на зямлю не ўпадзе, тое зямля не падтрымае; мабыць, маці не так вучыла дзяцей, калі, акрамя сябе, нікога дзеткі не бачаць. Вінавата аднак ва ўсім яна сама, маці, якое насенне, такія і ўсходы, чаму навучыла, тое атрымала.

Парасткі ўвагі і дабраты ў душы нашчадкаў закладвае сям'я, нешта Ева Бадановіч рабіла не так, калі разумныя адукаваныя дзеці адно сябе бачаць.

Ніводнае з іх так ні пра што з маткаю не параілася. Жывуць як не ў бацькоў, а чужых людзей...

Стукнулі вароты. Прыехалі з горада госці. Было позна. Такім часам у несвяточныя дні Ева Бадановіч ужо адпачывала, а цяпер трэба было яшчэ распачынаць вячэру. Інačай нельга, госці прагаладаліся. Ды і стравам жа не прападаць.

Утомленая гаспадыня не чуе рук і ног, са скрухай падумала: «Хутчэй бы канчалася свята». За святочны дзень яна стамілася больш, чым калі. «Святоўны дзень, святоўны...»

Вёска даўно спала. Нават у гулякі і выпівохі Іванюка ўціхла шуму.

А ў хату спрацаванай дашчэнту Евы Бадановіч уваходзілі госці. Яны адзначалі свята жанчын.

## ПОМНІЦЬ, ВЕДАЦЬ, ЗБЕРАГАЦЬ

# Драўляны летапіс прадмесцяў

**У жніўні 1985 года ў сувязі з будаўніцтвам другой чаргі метрапалітэна быў перавезены ў музей народнага дойлідства і побыту драўляны дом канца XIX — пачатку XX стагоддзя з вуліцы Вызвалення. У 1986 годзе на завулак Рабкораўскі быў перавезены дом 1904 года, у якім жылі З. Бядуля і М. Багдановіч, З. Верас, бываў А. Чарвякоў. Цяпер вядзецца яго рэстаўрацыя, тут плануецца размясціць філіял музея М. Багдановіча. Але гэтымі помнікамі не вычэрпваюцца ўзоры гістарычнай драўлянай забудовы...**



Від Мінска з Траецкай гары. Паштоўка XIX стагоддзя.

Як і большасць правінцыяльных гарадоў сярэдняй паласы Усходняй Еўропы Мінск і на пачатку нашага стагоддзя быў «драўляным горадам». Цэнтральнае ядро горада акружалі драўляныя прадмесці: Ракаўскае (раён вуліцы Астроўскага, Вызвалення, Дзімітрава), Старажоўка і Пярэспы (раён новай гасцініцы «Беларусь» і скрыжавання вуліц Чарвякова і Старавіленскага тракту), Камароўка (плошча Якуба Коласа і вуліца В. Харужай), Ляхаўка (раён вуліцы Кастрычніцкай), Уборкі (раён вуліцы Талстога), Добрая Мысль (раён станцыі Таварная), Грушаўка і іншыя. Ад іх да нашага часу захаваліся асобныя будынкі, групы дамоў.

У Мінску ёсць вопыт рэстаўрацыі асобных драўляных помнікаў. Вядома якую каштоўнасць мае аднаўлены дамок I з'езда РСДРП. Вядзецца рэстаўрацыя дамоў Валенція Ваньковіча, Змітрака Бядулі. Але асобна яны не змогуць раскрыць тэму драўлянай архітэктуры ў сістэме архітэктурна-гістарычнай спадчыны нашай сталіцы. Да таго ж у Мінску існуюць іншыя помнікі драўлянай жылой забудовы канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Гэта дамы па вуліцы Дзімітрава (былое Ракаўскае прадмесце), дамы па вуліцы Студэнцкай, у Вішнёвым завулку, па вуліцы Магілёўскай (Кірылаўская), Чарвякова. Значная колькасць помнікаў драўлянай забудовы захавалася па вуліцах Разінскай (былая Восіпаўская), Грушаўскай, Першым і Трэцім чыгуначных, Разінскім і Грушаўскім завулках. На Разінскай трэба адзначыць дамы №№ 90 і 92, 1911 і 1909 гадоў адпаведна. У доме пад нумарам 92 захавалася абсталяванне інтэр'ера пачатку веку, самаробная лава, ложак, стол, скрыні. Характэрным прыкладам драўлянай забудовы з'яўляецца вуліца Хмялеўскага. У забудове Грушаўкі вылучаюцца традыцыйныя малыя формы: брама, вешніцы. Але ў сістэме генплана горада гэты унікальны раён чакае рэканструкцыя, а шматлікія помнікі — знос.

Захаванне помнікаў драўлянай забудовы горада патрабуе распрацоўкі прынцыпу іх уключэння ў сістэму грамадскіх адносін. Адным з варыянтаў можа быць стварэнне архітэктурна-этнаграфічнага музея мінскіх прадмесцяў. Ён можа быць створаны ў гістарычнай структуры аднаго з раёнаў драўлянай забудовы, дзе да помнікаў, што захаваліся, можна перанесці пабудовы з іншых прадмесцяў. Этнаграфічная экспазіцыя дазволіць адлюстраваць асаблівасць побыту розных слаёў насельніцтва прадмесцяў. Тут могуць быць прадстаўлены жытло рамесніка, рабочага з Ляхаўкі, настаўніка і ўрача, заможнага домаўладальніка і г. д. Акрамя этнаграфічнай, можа быць створана і культурна-асветная праграма з паказам тэхналогіі гарадскіх рамёстваў, вытворчасцю сувеніраў, стварэннем музычных і літаратурных гасцёўняў і г. д.

Стварэнне архітэктурна-этнаграфічных экспазіцый у сістэме помнікаў горада мае вопыт. У свеце ўжо існуе звыш 20 музеяў гарадской культуры і побыту насельніцтва гарадоў (у Архусе — Данія, Бергене — Нарвегія, Турку — Фінляндыя, Іорку — Англія і інш.). Ёсць падобныя музеі і ў нашай краіне — Каломенскае ў Маскве, архітэктурныя запаведнікі ў Омску, Томску, Улан-Удэ... Плануецца стварэнне музея драўлянай архітэктуры горада ў Архангельску.

Помнікі ў такім музеі варта размяшчаць па сістэмнаму прынцыпу: у залежнасці ад канструкцыйных і пластычных асаблівасцей, ад прыналежнасці таму ці іншаму прадмесцю. Дапоўняць экспазіцыю элементы добраўпарадкавання: брукаваная вуліца, драўляны тратуар, водазаборная калонка пачатку XX стагоддзя, газавыя ліхтары. Думаецца, што музей мінскіх драўляных прадмесцяў варта стварыць на аснове гістарычнай забудовы раёна Грушаўкі і, ў прыватнасці, вуліцы Хмялеўскага. Асаблівую цікавасць ўяўляюць дамы на перакрыжаванні з вуліцай Дзекабрыстаў. Забудова вуліцы кампактная, рады вокнаў з пафарбаванымі аканіцамі ствараюць адчуванне ўтульнасці.

Такі музей хацелася б бачыць часткай агульнай праграмы аховы і выкарыстання помнікаў Мінска. Мяркуецца стварэнне археалагічнага музея ў станцыі метро «Няміга», дзе будуць дэманстравацца археалагічныя рэшткі і рэканструкцыі пабудоў XI — XVI стагоддзяў, завяршаецца рэстаўрацыя Траецкага прадмесця, на чарзе — Верхні горад, — гэта помнікі XVI — XIX стагоддзяў. Чаму б наступным звяном не зрабіць музей гістарычнай драўлянай жылой забудовы і такім чынам ўсебакова раскрыць гісторыю развіцця гарадской архітэктуры ў часе і ў прасторы?

Справа захавання помнікаў драўлянага дойлідства датычыць не толькі аднаго Мінска. Шмат каштоўных помнікаў драўлянай архітэктуры знаходзіцца пад пагрозай знішчэння ў Бабруйску, Магілёве, Гомелі і іншых гарадах.

Такі шырокі пласт архітэктурнай спадчыны, якім з'яўляецца драўляная архітэктура ў сістэме аховы помнікаў гісторыі і культуры, патрабуе зараз асобных адносін. Асобых таму, што помнікі драўлянага дойлідства хутка знікаюць і кожны страчаны аб'ект — гэта згубленая старонка нашага летапісу.

**Аляксандр ЛАКАТКО,**
**кандыдат гістарычных навук.**




**З 27 ЧЭРВЕНЯ ПА 3 ЛІПЕНЯ**

**28 чэрвеня, 22.30**
**«ЛІРА»**
Мастацка-публіцыстычная праграма.

**29 чэрвеня, 17.20**
III Усесаюзны фестываль самадзейнай мастацкай творчасці.
«Паклон табе, мой беларускі край!» Канцэрт народных калектываў Гомельшчыны.

**29 чэрвеня, 22.10**
**«У ТЭАТРАХ КРАІНЫ»**
Л. Украінка. «Лясная песня».
Спектакль Кіеўскага тэатра юнага гледача.
Уступнае слова рэжысёра-пастаноўшчыка В. Гірыча.

**2 ліпеня, 11.15**
**«ЛІТАРАТУРА І СУЧАСНАСЦЬ»**
Перадача з удзелам беларускіх пісьменнікаў і публіцыстаў.
Вядучы — П. Садоўскі.

**2 ліпеня, 12.55**
«МІНСК-88». Свята горада. Сустрэча з дзеячамі літаратуры і мастацтва.

**2 ліпеня, 15.20**
**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ...»**
Успамінае народная артыстка СССР С. Станюта.

**2 ліпеня, 17.00**
«МІНСК-88». Свята горада.

**2 ліпеня, 17.20**
**«СВЯТА»**
Прэм'ера фільма-канцэрта Беларускага тэлебачання.

**2 ліпеня, 19.35**
«МІНСК-88». Свята горада. Беларускае купалле.

**2 ліпеня, 23.20**
«МІНСК-88». «Хто ты, мінская прыгажуня?»

**3 ліпеня, 15.15**
**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**
П. Мурашка, У. Караткевіч. «Бацькаўшчына».

**3 ліпеня, 18.20**
**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**
А. Багатыроў. Араторыя «Бітва за Беларусь» на вершы А. Куляшова, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча.
Выконваюць Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР і хор Беларускага тэлебачання і радыё (мастацкі кіраўнік народны артыст БССР, прафесар В. Роўда), салісты — заслужаны артыст БССР В. Скорабагатаў, Н. Галеева, чытальнік В. Анісенка, дырыжор — народны артыст рэспублікі М. Казінец.

**3 ліпеня 19.45**
**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**
Па старонках фестывалю беларускай песні «Песню бярыце з сабой».

**3 ліпеня, 21.40**
«МІНСК-88». Спартыўна - тэатралізаванае свята.
Трансляцыя з мінскага стадыёна «Дынама».




С. БАСУМАТРАВА. Званы чалавечнасці. Вершы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 55 к.

М. ГІЛЬ. Кім і Валерыя. Аповесці і апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 1 р. 30 к.

У. ПАПКОВІЧ. Самы кароткі цень. Кніга вершаў. Мн., «Мастацкая літаратура». 1988. — 45 к.

К. ЦВІРКА — Лодка долі тваёй. Кніга паэзіі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 90 к.

Ф. ЯНКОЎСКІ. З нялёгкіх дарог. Мн., «Мастацкая літаратура», 1988. — 1 р. 80 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01269 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.